# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

## ВЫНІКІ СТУДЗЕНЬСКАГА АБ'ЯДНАНАГА ПЛЕНУМУ ЦК і ЦКК УсеКП(б)

СТУДЗЕНЬ

№ 1-2

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1 9 3 3



Літправа Н. Бокая
Тэхрэдактар І. Мілешка
Карэктар Ю. Жыдовіч
Здана ў друкарню 29/І—33 г.
Падпісана да друку 10/ІІ—33 г.
Набрана на лінатыпе № 6
Адк. кор. друк. А. Мацкевіч

# ЗЬМЕСТ



Заказ № 497. 10.000 экз. (3 арк.) Уп. Галоўлітбелу № а 90.

## 1. ВЫНІКІ ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Студзеньскі пленум ЦК і ЦКК праходзіў на вялікім рубяжы дзьвюх пяцігодак у абстаноўцы жорсткага крызісу, патрасаючага капіталістычныя краіны, пры нябывалым росьце ў гэтых краінах беспрацоўя, галечы і голаду ва ўмовах абвастрэньня ўсіх супярэчнасьцяй капіталізму, рэзкага абвастрэньня барацьбы паміж імпэрыялістамі аголенай фашысцкай дыктатуры ў Германіі і др. странах пры набліжэньні непасрэдна рэвалюцыйнай сытуацыі ў паасобных капіталістычных краінах.

Цэнтральным пытаньнем пленуму было падвядзеньне вынікаў першай пяцігодкі. Усе астатнія пытаньні пленуму—програма другой пяцігодкі і яе першага гаспадарчага году, важнейшыя рашэньні пленуму аб стварэньні політаддзелаў пры МТС і ў саўгасах, паста-

новы пленуму аб унутрыпартыйных пытаньнях—асноўваліся і выцякалі з таго глыбокага ленінскага аналізу палітычных вынікаў пяцігодкі, якія даў у сваім дакладзе правадыр партыі—т. **Сталін.**

Самае выдатнае ва ўсёй барацьбе і рабоце, якую правяла партыя за першую пяцігодку, зьяўляецца тое, што наш ленінскі Цэнтральны комітэт на чале з правадыром т. **Сталіным** яшчэ ў 1928 г., калі опортуністы ўсіх колераў вторылі міжнароднай буржуазіі аб немагчымасьці высокіх тэмпаў індустрыялізацыі, аб немагчымасьці пабудаваньня соцыялізму ў аднэй краіне—разгарнуў баявую програму першай пяцігодкі і пачаў практычна, з уласьцівай ленінскай праматой, непрымірымасьцю, мэтанакіраванасьцю і жалезнай настойлівасьцю ажыцьцяўляць гэты пяцігадовы плян.

Трэба са ўсёй сілай падкрэсьліць, што заслуга т. Сталіна заключаецца ў тым, што ён здолеў з тэй спадчыны, якую пакінуў нам Ленін, стварыць баявую програму дзеяньняў і конкрэтны плян работы, які атрымаў такое яркае выражэньне ў першай пяцігодцы.

Уся мудрасьць правадыра нашай партыі т. Сталіна заключалася ў тым, што ён ня толькі здолеў па-бальшавіцку, па-ленінску паставіць перад партыяй задачу ажыцьцяўленьня пяцігодкі, але ён забясьпечыў сваім кіраўніцтвам конкрэтнае яе выкананьне на ўсіх рашаючых вучастках.

Пад кіраўніцтвам т. Сталіна наша партыя распрацавала пяцігодку. Пад яго кіраўніцтвам яна гэту пяцігодку адстойвала ад усіх нападаў ворагаў унутры партыі, пад яго кіраўніцтвам наша партыя прыйшла да перамогі і завяршэньня гэтага пяцігадовага пляну.

Рашэньні пленуму зоймуць асобае месца ў гісторыі нашай партыі і Комінтэрну, бо перамогі пяцігодкі—гэта рашаючы этап на шляху да поўнай перамогі соцыялізму ў СССР, гэта разам з тым адзін з самых магутных вагароў сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

Партыя на чале з яе геніяльным правадыром т. **Сталіным,** змагаючыся за перамогу пяцігодкі, ажыцьцяўляла програму пабудаваньня соцыялізму ў СССР, выходзячы з тэй установкі Леніна,

што цяпер «галоўнае ўзьдзеяньне на міжнародную рэволюцыю мы аказваем сваёй гаспадарчай палітыкай».

Партыя змагалася за перамогу пяцігодкі з контррэволюцыйным трацкізмам, «тэорыя» якога аб немагчымасьці пабудаваньня соцыялізму ў аднэй краіне стала духоўнай зброяй міжнароднай буржуазіі ў падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць СССР.

Партыя змагалася за перамогу пяцігодкі з правым опортунізмам, які на новым гістарычным этапе выкарчоўваньня кулацтва і карэньняў капіталізму ў вёсцы, стаў галоўнай небясьпекай, выступаючы на даным этапе з контррэволюцыйнай праграмай рэстаўрацыі капіталізму і капітуляцыі перад міжнародным капіталам.

Партыя змагалася за пяцігодку ў чатыры гады з «левым» опортунізмам, з опортунізмам усіх масьцей, з прымірэнцтвам і гнілым лібэралізмам, няверачым у творчыя здольнасьці пролетарыяту.

Партыя змагалася за пяцігодку з буржуазным нацыяналізмам усіх масьцей, з вялікадзяржаўным шо-

вінізмам як галоўнай небясьпекай, за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі, за ліквідацыю фактычнай нацыянальнай няроўнасьці як аднэй з важнейшых умоў выкананьня гістарычных задач пролетарыяту.

Вось чаму вынікі пяцігодкі гэта, перш за ўсё, праверка і бліскучае пацьверджаньне правільнасьці генэральнай лініі партыі і ленінскай нацыянальнай палітыкі, як яе састаўной часткі, правільнасьці ленінскай тэорыі аб пабудаваньні соцыялізму ў аднэй, у паасобку ўзятай краіне; самае нагляднае, самае рэальнае пацьверджаньне творчай сілы перамогшага пролетарыяту, кіруемага ленінскай партыяй.

Вынікі пяцігодкі гэта разам з тым вынікі барацьбы дзьвюх сыстэм—капіталістычнай і соцыялістычнай.

«Вынікі пяцігодкі разьбілі вядомы буржуазны «сымболь веры» аб тым, што рабочая кляса ня здольна будаваць новае, што яна здольна толькі разбурыць старое. Вынікі пяцігодкі паказалі, што рабочая кляса здольна таксама добра

будаваць новае, як і разбураць старое» (Сталін).

«Вынікі пяцігодкі паказалі, што капіталістычная сыстэма гаспадаркі нягрунтоўна і нятрывала, што яна ўжо аджывае свой век і павінна ўступіць сваё месца іншай, вышэйшай, савецкай, соцыялістычнай сыстэме гаспадаркі, што адзіная сыстэма гаспадаркі, якая не баіцца крызісаў і здольна перамагчы цяжкасьці, невырашальныя для капіталізму,—гэта савецкая сыстэма гаспадаркі.

Нарэшце вынікі пяцігодкі паказалі, што партыя непераможна, калі яна ведае, куды весьці справу і не баіцца цяжкасьцяй» (Сталін).

Вынікі пяцігодкі паказалі, што выключная, выдатнейшая роля ва ўсіх перамогах, атрыманых партыяй і рабочай клясай у барацьбе за соцыялізм і стальное ядынства непераможнай бальшавіцкай партыі, належыць правадыру пролетарскай рэволюцыі—т. **Сталіну.**

## 1. ВЫНІКІ ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ

Тав. Сталін—натхніцель вялікага пляну соцыялістычных работ, пля-

ну, які быў пакладзен у аснову работы партыі па ажыцьцяўленьні пяцігодкі. У чым заключалася сутнасьць гэтага пляну—асноўная задача пяцігодкі.

«Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб перавесьці нашу краіну з яе адсталай, часам сярэднявяковай тэхнікай—на рэльсы новай, сучаснай тэхнікі.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб ператварыць СССР з краіны аграрнай і слабай, залежнай ад капрызаў капіталістычных краін—у краіну індустрыяльную і магутную, зусім самастойную і незалежную ад капрызаў сусьветнага капіталізму.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб, ператвараючы СССР у краіну індустрыяльную, выцесьніць да канца капіталістычныя элемэнты, расшырыць фронт соцыялістычных форм гаспадаркі і стварыць экономічную базу для зьніштажэньня кляс у СССР, для пабудаваньня соцыялістычнага грамадзтва.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб стварыць у нашай краіне такую індустрыю,

якая была-б здольна пераўзброіць і рэарганізаваць ня толькі прамысловасьць у цэлым, але і транспорт, і сельскую гаспадарку—на базе соцыялізму.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб перавесьці дробную і распыленую сельскую гаспадарку на рэльсы буйнай колектыўнай гаспадаркі, забясьпечыць тым самым экономічную базу соцыялізму ў вёсцы і ліквідаваць такім чынам магчымасьць аднаўленьня капіталізму ў СССР.

Нарэшце задача пяцігадовага пляну заключалася ў тым, каб стварыць у краіне ўсе неабходныя тэхнічныя і экономічныя прадпасылкі для максымальнага падняцьця абараназдольнасьці краіны, даючай магчымасьць арганізаваць рашучы адпор усім і ўсякім спробам ваеннай інтэрвэнцыі зьне, усім і ўсякім спробам ваеннага нападу зьне» (Сталін).

І. У выніку пяцігодкі створана ўласная перадавая тэхнічная база для соцыялістычнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

Чаму партыя разглядае гэта, як асноўны вынік першай пяцігодкі?

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**Па першае,** таму, што «адзінай матэрыяльнай асновай соцыялізму можа быць буйная машынная прамысловасьць, здольная рэорганізаваць і земляробства» (Ленін).

«Савецкая ўлада ня можа доўга базавацца на дзьвюх процілеглых асновах, на буйнай соцыялістычнай прамысловасьці, якая **зьнішчае** капіталістычныя элемэнты, і на дробнай аднаасобнай сялянскай гаспадарцы, якая **параджае** капіталістычныя элемэнты» (Сталін).

**Па-другое,** таму, што толькі ўласная перадавая тэхнічная база забясьпечыла магчымасьць перавесьці дробную сялянскую гаспадарку на рэльсы буйнай соцыялістычнай гаспадаркі, падарвала гэтым самым тыя карэньні, адкуль расьце капіталізм «штомінутна, штогадзінна і ў масавым маштабе», падвяла базу для ліквідацыі кулацтва як клясы і соцыялістычнай перапрацоўкі асноўных мас сялянства.

«Пакуль не падведзена пад дробную сялянскую гаспадарку база буйнай вытворчасьці, пакуль не аб'яднаны дробныя сялянскія гас-

гаспадаркі ў буйныя колектыўныя гаспадаркі, — небясьпека аднаўленьня капіталізму ў СССР зьяўляецца самай рэальнай небясьпекай з усіх магчымых небясьпек» (Сталін).



Пакуль не ліквідавана кулацтва як кляса—яно зьяўляецца мацнейшай апорай міжнароднага капіталу ў падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць СССР.

**Па-трэцяе,** таму, што толькі ліквідацыя нашай векавой спадчыннай адсталасьці дала магчымасьць адстаяць існаваньне СССР, як самастойнай краіны, умацаваць яе абароназдольнасьць і тым самым будаваць соцыялізм.

«Адсталых б'юць. Ты адстаў, значыць ты ня праў. Такі воўчы закон капіталізму».

«Гісторыя старой Расіі заключалася між іншым ў тым, што яе непарыўна білі за адсталасьць. Білі мангольскія ханы, білі турэцкія бэкі, білі швэдзкія фэодалы, білі польска-літоўскія паны, білі англа-французскія капіталісты, білі японскія бароны. Білі ўсе—за адсталасьць. За адсталасьць ваенную, за адсталасьць культур-

ную, за адсталасьць дзяржаўную, за адсталасьць прамысловую, за адсталасьць сельскагаспадарчую. Білі таму, што гэта было даходна і сходзіла беспакаранна» (Сталін).

У рэзультаце няўхільнага ажыцьцяўленьня заветаў Леніна адносна выкарыстаньня «мірнай» перадышкі для ліквідацыі нашай адсталасьці ў тэхніка-экономічных адносінах, адносна падвядзеньня пад прамысловасьць, сельскую гаспадарку і транспорт тэхнічнай базы сучаснай буйнай індустрыі, адносна пераходу ад дробнай распыленай сялянскай гаспадаркі да буйнай, колектыўнай — у корані, да непазнавальнасьці зьмяніўся твар нашай краіны. Твар Савецкага саюзу цяпер—гэта твар краіны **індустрыяльнай**, умацаваўшай сваю экономічную незалежнасьць, гэта—твар краіны самага **буйнага земляробства**, узброенага сучаснай складанай машыннай тэхнікай, гэта—твар краіны, якая адзіная ва ўсім сьвеце ў абстаноўцы развалу капіталістычнай экономікі бурна **разьвівае** сваю гаспадарку, **поўнасьцю зьніштожыўшы** беспра-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

цоўе сярод рабочых, зьбядненьне і паўпэрызм у вёсцы.



У чым заключалася цяжкасьць нашага будаўніцтва, цяжкасьць, па-бальшавіцку пераможаная рабочай клясай і працоўнымі СССР пад кіраўніцтвам партыі?

Яна заключалася ў тым, што гіганцкае будаўніцтва патрэбна было ажыцьцяўляць сваімі ўласнымі ўнутранымі сіламі, бяз усякай помачы зьне, без пазык, крэдытаў і т. д.

Капіталістычныя краіны разьвівалі сваю індустрыю стагодзьдзямі за кошт пазык, аграбленьня колёній і т. д.

Мы ня мелі ні пазык, ні крэдытаў. Гэта выклікае цяжкасьці.

Партыя прама гаварыла, што гэтая справа патрабуе сур'ёзных афяр і што мы павінны пайсьці на гэтыя афяры адкрыта і сьвядома, калі хочам дабіцца мэты. «Партыя разьлічвала падняць гэтую справу ўнутранымі сіламі нашай краіны без кабальных крэдытаў і пазык зьне» (С т а л і н).

Вера ў сілы рабочай клясы— вось што дало і дае партыі ўпэў-

ненасьць у пабудаваньні соцыялізму ў нашай краіне.



Што зьявілася тым асноўным зьвяном, ухапіўшыся за якое партыя выцягнула ўвесь ланцуг вялікіх перамог?

Такім зьвяном зьяўлялася разьвіцьцё цяжкай прамысловасьці (перш за ўсё трох кітоў нашай экономікі: мэталюргія, паліва, электрыфікацыя) з яе сэрцавінай—машынабудаўніцтвам.

За пяцігодзьдзе больш чым у 2 разы вырасла прамысловая продукцыя СССР, прычым продукцыя цяжкай прамысловасьці расла хутчэй агульнага прыросту продукцыі: пры 93,7 проц. выкананьня пляну прыросту продукцыі на 1932 г. цяжкая прамысловасьць выканала плян на 108 проц.

Калі (па даных на 1 студзеня 1932 г.) за гады рэволюцыі асноўны капітал нашай прамысловасьці абнавіўся на 57 проц., то асноўны капітал цяжкай прамысловасьці абнавіўся больш, чым на 2/3, а ў некаторых галінах—вугольная, нафтавая, электрыфікацыя—

больш чым на ¾ і нават больш, чым на ⅘.

| ДА ПЯЦІГОДКІ | ПАСЬЛЯ ПЯЦІГОДКІ |
|---|---|
| **Мэталюргія** | |
| У нас ня было чорнай мэталюргіі — асновы індустрыялізацыі краіны. | У нас яна ёсьць цяпер. Гіганты яе: Магнітабуд, Кузьнец-буд, Керчанскі завод, завод імя Войкава і інш. Уведзена за пяцігодку ў строй новых і рэконструяваных: 40 домнаў,—з іх 17 новых, магутных, 66 мартэнаўскіх пячэй, з іх 45 новых, 23 пракатныя станы, з іх 11 новых. |
| **Паліва** | |
| У нас была толькі адна, адзіная вугольна-мэталюргічная база на Украіне, з якой мы з цяжкасьцю спраўляліся. | Мы дабіліся таго, што ня толькі паднялі гэтую базу, але стварылі яшчэ новую вугольна-мэталюргічную базу на Усходзе, якая зьяўляецца гордасьцю нашай краіны. |
| У сэнсе вырабу нафтавых продуктаў і вугалю мы сталі на самым апошнім месцы. | Уступілі ў строй 150 новых шахт на 63 млн. *т.* магутнасьці. Мэханізаваны работы на 72 проц. Цяпер мы высунуліся на адно з першых месц. Здабыча нафты мэханізавана на 100 проц. Створана аграмадная тарфяная гаспадарка. Здабыча торфу ўзрасла на 100 проц. |

## Электрыфікацыя

Па выпрацоўцы электра-энэргіі мы стаялі на самым апошнім месцы.

Цяпер мы высунуліся на адно з першых месц.

Гіганты электраэнэргіі: Зуеўская, Чэлябінская, Штэраўская электрастанцыі, у БССР—Асінбуд. Замест 18 у 1928 г.—44 раённых электрастанцый у 1932 г.

У 1913 г. ня было ніводнай станцыі, магутнасьцю звыш 25 тыс. квт і нават у 1929 г. буйнейшая станцыя была, магутнасьцю ў 75 тыс. квт.

10 Электростанцый магутнасьцю звыш 100 тыс. квт даюць больш 1/3 усёй выпрацоўкі энэргіі ў краіне.

## Хімія

У нас ня было сур'ёзнай сучаснай хімічнай прамысловасьці. Разгортваньне хімычнай прамысловасьці пачалося толькі пасьля рэвалюцыі.

У нас яна ёсьць цяпер. На працягу першай пяцігодкі ўвайшло ў строй 58 буйных заводаў у тым ліку такія гіганты, як Бярэзьнікі, Чорнарэчанск (азот), Хібыны (апатыты) і інш.

## Машынабудаўніцтва

У 10 разоў узрасло савецкае машынабудаўніцтва ў параўнаньні з даваенным часам, у $4^1/_2$ разы—у параўнаньні з 27—28 г. Фактычна нанава вырасла вытворчасьць сродкаў вытворчасьці.

У нас ня было трактарнай прамысловасьці.

У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было аўтомобільнай прамысловасьці.

У нас яна ёсьць цяпер.

Тры трактарныя заводы, тры аўтомобільныя, два аўтозборачныя, карэнная рэконструкцыя 10 заводаў с.-г. машынабудаўніцтва—такія вынікі барацьбы за перадавую тэхніку ў сельскай гаспадарцы.

Размер вырабу с.-г інвэнтару ў 1933 г у 3½ разы перавысіць выраб 1928 г. і т. д.

## Лёгкая прамысловасьць

У царскай Расіі ўсе галіны лёгкай прамысловасьці былі ябсталяваны і ўкомплектоўваліся імпортнымі машынамі.

Створана ўласная машынабудаўнічая база для лёгкай індустрыі. Для аднэй толькі тэкстыльнай прамысловасьці савецкім машынабудаўніцтвам асвоена звыш 125 тыпаў машын.

Валавая продукцыя лёгкай прамысловасьці склала ў 1932 г. у цэнах 1926 г. 16,3 млрд. р. супроць 8,7 млрд. р. у 1928 г. (павялічэньне на 187 проц.) і 5,9 млрд. руб. у 1913 г. (павялічэньне амаль у 3 разы). Плян выканан на 84,9 проц.

Плян па харчовай прамысловасьці выканан на 108,9 проц.

У разьвіцьці машынабудаўніцтва найбольш яскрава і пуката выявіўся процэс ператварэньня СССР з краіны, якая прывозіць машы-

ны і абсталяваньне ў краіну, якая выабляе машыны.

«Разьвіцьцё машынабудаўніцтва, тэмпы яго разьвіцьця зьяўляюцца, бадай, самым важнейшым і самым бліскучым вынікам першай пяцігодкі» (Куйбышаў).

Стварэньне ўласнай тэхнічнай базы для рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі—першы важнейшы палітычны вынік пяцігодкі.

Адбылася колёсальная, нявымернага значэньня, перасоўка сусьветных сіл у бок СССР. На фоне буйнейшых краін сьвету СССР займае:

| | |
|---|---|
| *па прамысловай продукцыі* | *2-е месца ў сьвец* |
| па вырабу трактараў | 1-е „ „ „ |
| па сельгасмашынабудаўніцтве | „ „ „ „ |
| па вырабе комбайнаў | „ „ „ „ |
| па агульным машынабудаўніцтве | 1-е месца ў Эўропе.<br>2-е месца ў сьвеце |
| па чыгуне | 1-е месца ў Эўропе і<br>2-е месца ў сьвеце |
| па электраэнэргіі | 3-е „ „ „ |
| па нафце | 1-е месца ў Эўропе<br>2-е месца ў сьвеце |
| па торфе | 1-е „ „ „ і |
| па вугалі | 4-е „ „ „ |
| па хіміі | „ „ „ „ |

ДЛЯ ЗАЎВАГ

II. Але тэхнічную базу соцыялістычнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі нельга разглядаць адарвана ад клясавых адносін у краіне.

Шырокі рост індустрыі, з аднаго боку, і пасьпяховае правядзеньне палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы—з другога, далі магчымасьць забясьпечыць сельскую гаспадарку трактарамі і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі, аб'яднаць дробныя, аднаасобныя сялянскія гаспадаркі ў колгасы, арганізаваць сетку саўгасаў.

147 800 трактараў, 12 тыс. комбайнаў, 10 тыс. з лішнім аўтомобіляў і дзесяткі тысяч складаных с.-г. машын працуюць цяпер на соцыялістычных палёх.

Калі к пачатку першай пяцігодкі ¾ сялян ня мелі ніякага інвэнтару або мелі адзін толькі ворны інвэнтар, а ¼ ня мела нават рабочай жывёлы, то к канцу пяцігодкі 25 проц. сялянскіх гаспадарак, уваходзячых у колгасы і ахопленых МТС, узброены сыстэмай машын мэханічнай цягі і больш ⅓ астатніх карыстаецца наборам с.-г. машын коннай цягі.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

«За першую пяцігодку адбылося карэннае зьмяненьне асноў тэхнікі с.-г. вытворчасьці ў нашай краіне. Вось у чым наша сіла» (Молатаў).

**1928 г.**

**Саха**—узворвала $^1/_{10}$ плошчы пасеву яравых.

**Ручны пасеў**—ахопліваў $/_4$ плошчы ярабога кліну.

**Ручная ўборка**—праводзілася на $^1/_3$ плошчы ўборкі.

**Ручны абмалот**—ахопліваў 40 проц. валавога збору.

**1933 г.**

**Трактар**—узворвае $^1/_3$ плошчы яравога кліну.

**Сеялкі**—абслугоўваюць амаль увесь пасеў.

**Машыны коннай цягі**—праводзяць $^3/_4$ ўборкі.

**Трактарная цяга і комбайны**—праводзяць $^1/_6$ уборкі.

**Малацілка коннай і механічнай цягі**—праводзіць увесь абмалот.

Якое **клясавае выражэньне** гэтых цыфр?

Клясавае выражэньне гэты цыфр азначае: 200 з лішкам тыс. колгасаў з ахопам імі звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак і 75 проц. пасеўных плошчаў, 5 тыс. саўгасаў, 2½ тыс. МТС, якія павінны быць політычнымі і організацыйна-тэхнічнымі кіраўнікамі колгасаў.

Клясавае выражэньне гэтых цыфр азначае, што вырашана за-

дача пераводу дробнай і індывідуальнай распыленай сялянскай гаспадаркі на рэльсы соцыялістычнага земляробства і што СССР ператварыўся ў краіну самага буйнага земляробства.

У першую пяцігодку пасеўная плошча ў параўнаньні з 27-28 г. павялічылася на 21 га, значна вырасьлі і разьмеры таварнага збожжа ў краіне.

Клясавае выражэньне гэтых цыфр азначае перамогу соцыялістычных форм гаспадаркі ў вёсцы, азначае, што пытаньне «хто каго» вырашана канчаткова і беспаваротна на карысьць соцыялізму як у горадзе, так і вёсцы, азначае разгром кулака, канчатковы падрыў і зьніштажэньне прычын, параджаючых клясавае расслаеньне ў вёсцы, ператварэньне колгаснай гаспадаркі ў моцную апору соцыялістычнага будаўніцтва.

Клясавае выражэньне гэтых цыфр азначае, нарэшце, узмацненьне экономічнай незалежнасьці Савецкага саюзу па лініі стварэньня ўласнай сыравіннай базы сельскай гаспадаркі.

У 1928 г. мы вымушаны былі расходваць 150 млн. руб. золата на прывоз аднэй бавоўны. Расход золата на прывоз шэрсьці яшчэ ў 1929 г. дасягаў амаль 70 млн. руб. На скураную сыравіну мы павінны былі даваць у год да 40 млн. руб. золатам.

З таго часу мы дабіліся карэннага зьмяненьня становішча. Вытварэньне бавоўны ў нашай краіне ўзрасло ўдвая і дало магчымасьць поўнасьцю вызваліцца ад прывозу заграцічнай бавоўны. З году ў год павялічваюцца пасеўныя плошчы пад лён.

Расьце сыравінная база скураной і абутковай прамысловасьці. Вырошчваюцца новыя віды сыравіны (кендыр, кенаф і інш.).

Такі другі важнейшы палітычны вынік пяцігодкі.

III. Гэтыя два вынікі вызначылі стварэньне фундаманту соцыялістычнай экономікі ў нашай краіне, перамогу прынцыпу соцыялізму ва ўсіх абласьцях народнай гаспадаркі, нявымернае ўмацаваньне абароназдольнасьці краіны, ператварылі СССР у краіну незалежную ад капрызаў сусьветнага рын-

ку, гатовую да ўсякіх выпадковасьцяй, выцякаючых з імпэрыялістычных імкненьняў міжнароднай буржуазіі.

«З краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны Савецкі саюз ператварыўся ў краіну магутную ў сэнсе абароназдольнасьці, у краіну, гатовую да ўсякіх выпадковасьцяй, у краіну, здольную вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя прылады абароны і забясьпечыць імі сваю армію ў выпадку нападзеньня зьне» (Сталін).

Як партыя дабілася гэтага?

Ва ўмовах капіталістычнага абкружэньня, якое шалёна рыхтуецца да інтэрвэнцыі, экономічнай вайны супроць СССР на розных вучастках зьнешняга рынку, якая вялася і вядзецца без перадышкі, векавой адсталасьці і пераважаньня дробнай сялянскай гаспадаркі,—лёс краіны, пытаньне жыцьця або сьмерці Савецкага саюзу вырашаўся тэмпамі нашага разьвіцьця.

«Вайна няўмольна, яна ставіць пытаньне з бязьлітаснай рэзкасьцю: або загінуць, або дагнаць перадавыя краіны і перагнаць іх таксама

эканамічна... Загінуць, або на ўсіх парах накіравацца ўперад. Так пастаўлена пытаньне гісторыяй» (Ленін).

Таму «партыя, як-бы падхлістывала краіну, паскараючы яе бег уперад», бо «нельга не падганяць краіну, якая адстала на 100 год і якой пагражае з-за яе адсталасьці сьмяртэльная небясьпека», бо «мы не маглі ведаць, у які дзень нападуць на СССР імпэрыялісты і перарвуць наша будаўніцтва, а што яны маглі напасьці ў любы момант, карыстаючыся тэхніка-эканамічнай адсталасьцю краіны—ў гэтым не магло быць сумненьня» (Сталін).

Толькі ленінская палітыка найбольш паскораных тэмпаў разьвіцьця, праводзімая партыяй, забясьпечыла наша будаўніцтва, нашы перамогі, а, значыцца, і магчымасьці стварэньня ўмоў для карэннага палепшаньня матэрыяльнага становішча працоўных нашай краіны.

IV. У рэзультаце нашага гіганцкага будаўніцтва зьнішчожана беспрацоўе і няўпэўненасьць у заўтрашнім дні сярод рабочых. Толькі палітыка найбольш паскораных

тэмпаў колектывізацыі, праваdзімая партыяй, зрабіла магчымым ахоп колгасамі амаль усёй беднаты, падрыў на гэтай аснове расслаеньня ў вёсцы на беднякоў і кулакоў, зьніштажэньне зьбядненьня і паўпэрызму ў вёсцы.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

## У РЭЗУЛЬТАЦЕ ПЯЦІГОДКІ

| У нас | У іх |
|---|---|
| **Гаспадарка** | |
| Гіганцкі **ўздым** прамысловасьці. | Жорсткі **крызіс,** які ўсё паглыбляецца. |
| **Аб'ём** прамысловай прадукцыі вырас к канцу 1932 г., больш чым у 3 разы (334 проц.) у параўнаньні з даваенным узроўнем, і больш, чым у 2 разы (219 проц.) у параўнаньні з узроўнем 1928 г. Удзельная вага прамысловай прадукцыі вырасла з 48 проц. у 27—28 г. да 70 проц. у 1932 г. | **Аб'ём** прамысловай прадукцыі ПАЗШ у параўнаньні з даваенным узроўнем зьнізіўся да 84 проц., у параўнаньні з 28 г.—да 56 проц. Адпаведна гэтаму ў Англіі: 75 і 80 проц. Германіі—62—55 проц., Польшчы—54 проц. |
| Нябывалы **ўздым** сельскай гаспадаркі, рост пасеўных плошчаў, рост прадукцыі. | **Зьніжэньне** пасеўнай плошчы на 8—10 проц. у асноўных збожжавытвараючых краінах, зьніжэньне кошту валавой прадукцыі па збожжы (у ПАЗШ больш. чым на 68 проц. У параўнаньні з 1929 г.), па бавоўне (больш чым на 70 проц.). |

Аграмадны энтузіязм працоўных ў барацьбе за тэхнічнае ўзбраеньне народнай гаспадаркі.

„Пракляцьце тэхніцы"— вось заклік, які раздаецца ва ўсіх капіталістычных краінах, якія заблыталіся ў вострых супярэчнасьцях сучаснага крызісу.

## Становішча працоўных

Рабочыя даўно ўжо забыліся аб беспрацоўі.

Рост беспрацоўя, рост яго ўціску і жахаў. Па афіцыяльных паменшаных даных лік беспрацоўных у капіталістычных краінах (апрача Кітаю, Індыі і інш.) раўняецца 30 млн.

У 2 разы вырас лік рабочых і служачых буйнай прамысловасьці ў параўнаньні з 1928 г., больш чым у 2 разы павялічылася сярэднягадовая колькасьць рабочых і служачых у БССР (217,5 проц.).

У Англіі, больш чым у 2 разы, а ў Германіі больш, чым у 4 разы вырас лік беспрацоўных. Разарэньне сялян і фэрмэраў.

Сярэднягадовая зарплата вырасла на 67 проц. Плян пяцігодкі па БССР па сярэднягадовай зарплаце перавыканан у 2 разы.

У Германіі на 50 проц., а ў Злучаных штатах на 35 проц. панізілася зарплата.

Амаль у 3 разы павялічыўся фонд соцыяльнага страхаваньня, у $4\frac{1}{2}$ разы перавыканана пяцігодка па соцыяльным страхаваньні ў БССР.

Пераважная большасьць рабочых СССР пераведзена на 7-гадзінны працоўны дзень.

У ПАЗШ і Францыі поўнасьцю адсутнічае соцыяльнае страхаваньне, значна скарочаныя фонды ў Англіі, Германіі.

**Уздым навукі і культуры.** Рост тэхнічных кадраў. Менш 10 проц. асталося ў СССР няпісьменных.

**Закрываюцца ВНУ і навуковыя інстытуты.** Расьце беспрацоўе тэхнічных кадраў, узмацняецца дэградацыя навукі, усё большае пашырэньне атрымліваюць „тэорыі" непатрэбнасьці прогрэсу навукі і тэхнікі.

У 3 разы павялічылася колькасьць студэнтаў у ВНУ і ВТНУ, у 9 разоў павялічылася колькасьць студэнтаў-рабочых на рабфаках, у 2 разы павялічыўся процант насычэньня спэцыялістамі нашых прадпрыемстваў і колькасьць навуковых работнікаў, больш чым у 3 разы павялічылася колькасьць навукова-дасьледчых інстытутаў.

V. Перамогі пяцігодкі даказалі таксама правільнасьць **ленінскай нацыянальнай політыкі.**

Аднэй з вялізарных перамог першай пяцігодкі зьяўляецца ператварэньне былых нацыянальных ускраін, экономічна і культурна адсталых, служыўшых да пролетарскай рэволюцыі об'ектам колёніяльнай эксплёатацыі,—у экономічна і культурна-перадавыя савецкія рэспублікі.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Курс партыі на хутчэйшую ліквідацыю фактычнай экономічнай і культурнай няроўнасьці нацыянальнасьцяй СССР, якая атрымана намі ў спадчыну ад мінулага, знайшоў сваё выражэньне ў тым, што для больш адсталых савецкіх рэспублік былі забясьпечаны **больш хуткія тэмпы** гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, што ў гэтых рэспубліках найбольш інтэнсыўна ішла работа па стварэньні прамысловых цэнтраў, выхаваньні кадраў пролетарыяту, унядрэньні навейшай тэхнікі ў земляробства і перабудаваньні сельскай гаспадаркі на соцыялістычнай аснове. У гэты-ж час у капіталістычных краінах, у Польшчы і Заходняй Беларусі—усё ўзрастаючы нацыянальны ўціск, зьбядненьне, голад.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

| У НАС | У ІХ |
| --- | --- |
| БССР | Польшча і Заходняя Беларусь |

## Гаспадарка

### а) прамысловасьць

Да рэволюцыі Беларусь мела мізэрную прамысловасьць, у большасьці саматужна-рамесьніцкую. Да вай-

ны Беларусь налічвала ўсяго толькі 17 тыс. рабочых і ўся яе прамысловасьць давала продукцыі на якіх-небудзь 40 млн. руб. Ужо ў 1927 г., калі ўся прамысловасьць СССР дасягала даваеннага ўзроўню, прамысловасьць БССР павялічыла сваю продукцыю ў 4 разы, больш чым у даваенны, а колькасьць рабочых вырасла да 28 тыс. За пэрыод-жа першай пяцігодкі продукцыя прамысловасьці нашай рэспублікі павялічылася яшчэ ў 3½ разы.

**Вырасьлі новыя заводы і карэнным чынам рэконструяваны старыя.**

За гады пяцігодкі пушчаны 73 прадпрыемствы з колькасьцю да 30 тыс. рабочых, у тым ліку 25 буйнейшых прадпрыемстваў у БССР па 4-х наркоматах саюзнай рэспубліканскай прамысловасьці (18 з іх пушчаны ў ход на працягу 1930—1932 г.). У лік гэтых прадпрыемстваў уваходзіць: Гомсельмаш, Дрэвaапрацоўчы комбінат у Бабруйску, Віцебская швэйная фабрыка, Магілеўская фабрыка штучнага шоўку, Барысаўская новая запалкавая фабрыка, Ільна-часальны комбінат у Воршы і рад іншых.

**У Заходняй Беларусі закрываюцца апошнія прадпрыемствы.**

У 1932 г. закрыты: Ліцейны завод у Волкавыцку і аўтомобільныя майстэрні ў Вільні.

У Беластоку, дзе сконцэнтравана асноўная тэкстыльная прамысловасьць Заходняй Беларусі, закрыта 25 тэкстыльных фабрык і ва ўсёй Беластоцкай акрузе асталося толькі дзьве дзейнічаючыя фабрыкі.

Усяго за час крызісу з 301 прадпрыемства Заходняй Беларусі закрылася 142.

Разам з тым, польская буржуазія ўзмоцнена ўзбройваецца. І побач з масавым закрыцьцем прадпрыемстваў, у Гайноўцы, напрыклад, будуецца аграмадны шпігінарны завод ваеннага прызначэньня.

Зьмяняюцца і разьмеры прадпрыемстваў у бок іх концэнтрацыі. У параўнаньні з 1928 г. у 1932 г. лік прадпрыемстваў з колькасьцю рабочых ад 100 да 500 чал. паменшыўся ў $1^1/_2$ разы, лік прадпрыемстваў з колькасьцю рабочых ад 1 100 да 3 000 чал. павялічыўся ажно у 2 разы, і зусім нанова ўзьніклі прадпрыемствы з колькасьцю рабочых звыш 3000 чал.

Карэнным чынам рэканструяваны 17 прадпрыемстваў, у тым ліку і такія буйныя, як машынабудаўнічы завод імя Варашылава ў Менску, чыгуналіцейны і машынабудаўнічы завод „Комунар", 4 шкляныя заводы, друкарня імя Сталіна, Добруская папяровая фабрыка і т. д.

Новыя і рэканструяваныя звыш 80 проц. заводы далі ў 1931 г 90,1 проц. усёй валавой продукцыі, а па 20 паасобных галінах новыя і рэканструяваныя звыш 80 проц. заводы даюць усе 100 проц. валавой продукцыі данай галіны (тарфяная, скураная, хімічная, шэйная, абутковая, трыкатажная прамысловасьць і рад іншых).

Па прамысловасьці пяцігадовы плян БССР выкананы на 105,1 проц.

**Расьце прамысловая продукцыя, прычым тэмпы яе ў 2 разы вышэй сярэдніх тэмпаў прыросту продукцыі па СССР.**

У параўнаньні з 1927-28 г. валавая продукцыя БССР па 4-х Наркоматах вырасла **амаль у 5 разоў** (477 проц.). У два разы павялічылася выпрацоўка продукцыі на кожнага рабочага па саюзнай і рэспубліканскай прамысловасьці (у руб.).

**2. А ў Польшчы: катастрофічна падае продукцыя.**

Выплаўка чыгуну ў 1932 г. складае толькі 40,6 проц. даваеннага ўзроўню.

Выраб сталі—26 проц. даваеннага ўзроўню. Пракат мэталю—22 проц. даваеннага ўзроўню і т. д.

## Сельская гаспадарка

**Уздым, рост буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, ліквідацыя тэхнічнай адсталасьці.** У 2 разы вырасла колькасьць саўгасаў, у параўнаньні з 1928 г. 210 і 429), больш чым у 14 разоў вырасла колькасьць колгасаў (611 у 1928 г. і 8909 у 1932 г.).

Пасеўная плошча пад саўгасамі павялічылася амаль у 5 разоў (41 тыс. *га* ў 1928 г, і 195 тыс. *га* ў 1932 г.),амаль у 77 разоў павялічылася пасеўная плошча пад колгасамі (25, 2 тыс. *га* у 1928 і 1926 гг., 7 ты . *га* ў 1932 г.)

**Крызіс сельскай гаспадаркі**

У заходняй Беларусі рэзка скарацілася пасеўная плошча пад тэхнічныя культуры.

Рэзка зьнізіліся цэны на сельскагаспадарчыя продукты. Цэны на лён не аплачваюць яго ўборкі і перапрацоўкі, ня кажучы ўжо аб затратах на сяўбу. Пуд ільну ў 1932 г. каштуе 8 злотых (у 7 разоў ніжэй, чым у 1927 г.). Каб купіць простыя боты, селянін павінен заплаціць 30 пудоў збожжа.

На Палесьсі цана аўцы раўняецца 2 злотым (44 капейкі).

Па афіцыйных даных, цана

Больш чым у 23 разы павялічылася колькасьць трактараў (у 1928 г. было 123 трактары, цяпер—каля 3 тыс.

Машынаўзброенасьць соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі БССР павялічылася за апошнія 4 гады ў 4 разы.

Па сельскай гаспадарцы БССР пяцігодка выканана на 203 проц.

рабочага каня ў Польшчы ў гэтым годзе складае толькі 143 злотых.

## Становішча працоўных

Колькасьць рабочых вырасла амаль у 5½ разоў ў параўнаньні з даваенным часам (17 тыс. рабочых—тады, каля 100 тыс. рабочых—цяпер).

Рост зарплаты. Пяцігадовы плян у вобласьці фонду зарплаты рабочых і служачых БССР выканан на 442,5 проц., фонд соцыяльнага страхаваньня вырас больш, чым у 4½ разы.

У Польшчы па офіцыйных даных, у 2 разы павялічыўся лік беспрацоўных у параўнаньні з 1928 г. (350 тыс.—цяпер, 152½ тыс.—тады). На самай справе лік беспрацоўных павялічыўся ў 10 разоў: беспрацоўных ў Польшчы больш 1½ млн.

У Заходняй Беларусі на кожнае свабоднае месца больш 17 кандыдатаў, а па шкляной прамысловасьці на кожнае свабоднае месца больш 98 кандыдатаў, жадаючых працаваць.

Зарплата за 1931 г. паменшылася па Заходняй Беларусі на 15—20 проц. Горш за ўсіх становішча с.-г. рабочых. Іх рэальная зарплата зьніжана больш, чым напалавіну; рабочы сваю зарплату атрымлівае натурай, і прытым у 3 разы менш, чым у карэннай Польшчы.

**Разгром кулацтва. Рост дабрабыту асноўных мас сялянства.**

У Заходняй Беларусі ўсё ўзмацняецца зьбядненьне, галеча і голад у вёсцы, усё паглыбляецца расслаеньне сялян.

Падаткі, у параўнаньні з даваенным часам, па даных буржуазнай прэсы, вырасьлі ў 4 разы, прычым калі ў заможных гаспадарках (15 дзесяцін) з кожнай дзесяціны бярэцца падатку 10 злотых, то з гаспадаркі ў 8 дзесяцін—12$^{1}/_{2}$ злотых, а з бядняцкай гаспадаркі, якая мае 1$^{1}/_{3}$ дзесяціны—больш 32 злотых з кожнай дзесяціны.

У Польшчы селянін таксама разараецца. За 1 *кг* солі ён павінен аддаць 8 *кг* жыта, за 1 карабок запалак – 5 яек і т. д.

Селянін у даўгох па горла ў ліхвяроў. Па вылічэньнях былога міністра земляробства агульная запазычанасьць сялянскіх гаспадарак у банкаў і комунальных кас складае 2.800 млн. злотых.

## Культурнае будаўніцтва

У дарэволюцыйнай Беларусі было 70 проц. няпісьменных.

К XV-годзьдзю Кастрычніка БССР была абвешчана рэспублікай суцэльнай пісьменнасьці.

**Аграмаднейшы ўзрым школьнага будаўніцтва.**

Закрыцьце **нацыянальных** школ працоўных, вялікадзяржаўна-шовіністычная політыка прыдушэньня нацыянальнай культуры з боку польскай і беларускай буржуазіі, нябачаны нацыянальны ўціск.

Па офіцыйных даных у 1930 г. у Навагрудзкім ваяводзтве было

У 1932 г, звыш 7 тыс. школ першай ступені, шырока разгорнутая сетка фабрычна-заводзкага вучнёўства (пяцігадовы плян тут перавыканан амаль у 4 разы) ахоп 97,9 проц дзяцей ва ўзросьце ад 8 да 12 год і 96 проц. ва ўзросьце ад 12 да 15 год усеагульным навучаньнем у 1929 г. БССР першая па СССР ўвяла ўсеагульнае навучаньне для дзяцей 8-гадовага ўзросту.

У 4 разы ў параўнаньні з 1921 г. павялічылася колькасьць школ на беларускай мове. Узрасла колькасьць і ўдзельная вага школ нацменшасьцяй: больш чым у 2 разы павялічыўся процант яўрэйскіх школ, больш чым у 13 разоў павялічыўся процант польскіх школ у параўнаньні з 1921 г. і т. д.

32 ВНУ, 130 тэхнікумаў, 1 600 навуковых работнікаў. Значны кадр навуковых работнікаў паходзіць з беларускай рабоча-сялянскай моладзі, прайшоўшай вышэйшую школу і асьпірантуру ў Савецкай Беларусі.

Ад дзьвюх навуковых устаноў у пачатку пяцігодкі—да 40—цяпер.

Шырока разгорнута сетка палітыка-асьветных устаноў: 58 проц, а ў Палескім—71 проц. няпісьменных.

У школах за кожнае слова, сказанае на беларускай мове, плацяць штраф 5 грошай. Закрыты амаль усе літоўскія школы. Яўрэйскія школы знаходзяцца ў катастрофічным становішчы.

дамы культуры, бібліотэкі, музэі і т. д.

Друк: 13 цэнтральных газэт (з іх 6 на мове нацменшасьцяй), 64 раённыя газэты, 30 журналаў і т. д. У БССР на кожныя 5 чал. насельніцтва прыпадае 1 газэта.

Мастацтва: 13 тэатраў, 996 кіно-ўстановак, разьвіцьцё мастацкай пролетарскай літаратуры.

Па культуры пяцігодка ў БССР выканана на 156,7 проц.

* * *

Такія вынікі барацьбы за пяцігодку ў вобласьці ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі.

Такія вынікі нацыянальнага прыгнечаньня ў капіталістычных краінах, у Польшчы, у Заходняй Беларусі, у абстаноўцы тэрору і свавольства окупацыйных улад.

Капіталістычная сыстэма гаспадаркі ня вытрымала экзамену ў цяжбе з савецкай сыстэмай. Савецкая сыстэма даказала, што яна мае ўсе перавагі перад сыстэмай капіталістычнай.

VI. Які вынік пяцігодкі ў вобласьці барацьбы з рэшткамі варожых кляс?

ДЛЯ ЗАЎВАГ

«Мы ўмацавалі ва ўсіх сфэрах народнай гаспадаркі прынцып соцыялізму, выгнаўшы адтуль капіталістычныя элемэнты»... «выбілі да канца рэшткі варожых кляс з іх вытворчых позыцый, разграмілі кулацтва і падрыхтавалі глебу для яго зьніштажэньня»—такі сусьветна-гістарычны вынік пяцігодкі ў вобласьці барацьбы з рэшткамі варожых кляс.

Гэты вынік ёсьць паказальнік нашых вялізарных, нябачаных у сьвеце, посьпехаў, посьпехаў на якія здолен толькі пролетарыят, які стаіць на чале ўлады і якім кіруе ленінская партыя.

Але гэты вынік ёсьць разам з тым і паказальнік усёй складанасьці задач, стаячых перад пролетарыятам, які будуе соцыялізм.

Складанасьць задач у вобласьці клясавай барацьбы на даным этапе заключаецца ў тым, што ў рэзультаце перамогі прынцыпу соцыялізму ва ўсіх абласьцях народнай гаспадаркі і, у прыватнасьці, перамогі колгаснага ладу, зьмяніўся твар клясавага ворага, яго тактыка.

Выбітыя з каляіны апошнія рэшткі паміраючых кляс ужо ня ў сі-

лах пайсьці ў прамую атаку супроць савецкай улады і «дзейнічаюць» ціхай сапай, накінуўшы маску «рабочых» і «сялян».

«Будучы выбітымі з каляіны і раскідаўшыся па твары ўсяго СССР, гэтыя былыя людзі распаўзьліся па нашых заводах і фабрыках, па нашых установах і гандлёвых організацыях, па прадпрыемствах чыгуначнага і воднага транспорту і галоўным чынам—па колгасах і саўгасах. Распаўзьліся і ўкрыліся яны там, накінуўшы маску «рабочых» і «сялян», прычым той-сёй з іх пралез нават у партыю.

З чым яны прышлі туды? Зразумела з пачуцьцём нянавісьці да савецкай улады, з пачуцьцём лютай варожасьці да новых форм гаспадаркі, быту, культуры. І яны паскудзяць як толькі могуць» (**Сталін**).

Цэлы рад устаноў БССР аказаўся засьмечаным клясава-варожымі элемэнтамі. Яны пралезьлі ў нашы зямельныя органы — Наркомзем, сыстэму Трактарацэнтру (а сыстэма Трактарацэнтру ў БССР як пагранічнай рэспубліцы мае свае асаблівасьці), у органы плянаваньня— Белдзяржснаб, Белкоопсаюз (там,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

напрыклад, працаваў Бялуга, былы афіцэр, былы актыўны нацдэм, які быў у Калчака) і т. д.

Кулакі пралезьлі ў колгасы, арганізоўвалі там сваю контррэволюцыйную шкодніцкую работу.

У **Лоеўскім** раёне па колгасах выяўлена 116 чалавек чужых элемэнтаў, у ліку іх: кулакоў—70 чал., былых бандытаў—12, поліцэйскіх—9 чал.

У **Талочынскім** раёне—старшыня колгасу «Прогрэс»—былы афіцэр, які меў 40 **га** зямлі.

У **Клічаўскім** раёне ў колгасе «Комінтэрн» рахункавод Гулько—цьвёрдазаданьнік. Апрача яго, ёсьць яшчэ 5 цьвёрдазаданьнікаў, сваякі якіх высланы, а частка ўшла ў Польшчу з польскімі легіянэрамі. У колгасе «Зара» кулак Сімаховец—рахункавод, а яго бацька—старшыня рэўкомісіі.

Гэта толькі некаторыя кароткія зьвесткі. Іх можна было-б павялічыць яшчэ і яшчэ...

У сваёй зьвярынай нянавісьці да саветаў, колгаснага ладу кулакі шкодзяць як толькі могуць.

Галоўны ўпор у сваёй «дзейнасьці» клясавы вораг, які дажы-

вае апошнія дні і таму ўзмацняе сваё супраціўленьне, накіроўвае на расхістваньне асновы савецкай гаспадаркі і савецкага ладу—грамадзкай уласнасьці, на арганізацыю масавага крадзяжу на фабрыках і заводах, складах, чыгунках і асабліва ў саўгасах і колгасах, выкарыстоўваючы прыватна-ўласьніцкія перажыткі колгасьнікаў—учарайшых аднаасобнікаў, маскіруючы свой контррэволюцыйны твар.

«Цяперашнія кулакі і падкулачнікі, цяперашнія антысавецкія элемэнты ў вёсцы—гэта ў большасьці людзі «ціхія», «салодзенькія», амаль «сьвятыя». Іх ня трэба шукаць далёка ад колгасу, яны сядзяць ў самым колгасе і займаюць там пасады кладаўшчыкоў, загадчыкаў гаспадаркі, рахункаводаў, сакратароў і т. д. Яны ніколі ня скажуць—«далой колгасы». Яны «за» колгасы. Але яны вядуць у колгасах такую саботажніцкую і шкодніцкую работу, што колгасам ад іх не паздаровіцца. Яны ніколі ня скажуць—«далой збожжазагатоўкі». Яны «за» збожжазагатоўкі. Яны «толькі» пускаюцца ў дэмагогію і патрабуюць, каб колгас

стварыў фонд для жывёлагадоўлі ўтрая большы па разьмерах, чым гэта патрабуецца для справы, каб колгас стварыў страхавы фонд утрая большы па разьмерах, чым гэта патрабуецца для справы, каб колгас выдаваў на грамадзкае харчаваньне ад 6 да 10 фунтаў хлеба на дзень на работніка і т. д. Зразумела, што пасьля такіх «фондаў» і выдач на грамадзкае харчаваньне, пасьля такой жульніцкай дэмагогіі гаспадарчая магутнасьць колгасу павінна быць падарвана і для збожжазагатовак не астаецца месца.

Каб разгледзець такога ворага і не паддацца дэмагогіі, трэба ўладаць рэволюцыйнай пільнасьцю, трэба ўладаць здольнасьцю сарваць маску з ворага і паказаць колгасьнікам яго сапраўдны контррэволюцыйны твар» (Сталін).

Узмацненьне супраціўленьня апошніх атрадаў буржуазіі ня можа не знаходзіць свайго адлюстраваньня ў партыі.

Ход загатовак 1932 г. асабліва яскрава ўскрыў наяўнасьць опортуністычных, перараджэнчых, буржуазна-нацыяналістычных элемэнтаў унутры партыі, якія змыкаюцца

з кулаком, якія сталі на шлях прамога пасобніцтва кулаку, якія прыкрываюць сваю антысавецкую работу па разлажэньні колгасаў, па сабатажы загатовак і т. д. партбілетам і часта фальшыва-нацыянальным флагам.

Вось некаторыя даныя па Гарадоскім раёне:

Сакратар Абольскай ячэйкі Вішнёў садзіць кулака на работу ў сельсавет у якасьці рахункавода.

Сакратар Хвашнянскай ячэйкі Віраб'ёў бярэ хабары ад колгасаў. У гэтай ячэйцы ёсьць кандыдат, які зьяўляецца крымінальным злачынцам.

Сакратар Паташанскай ячэйкі Шпак абараняе свайго цясьця-кулака, не дазваляе браць у яго цьвёрдае заданьне.

Старшыня колгасу «Комэта», член партыі Васільеў, згнаіў лён у колгасе.

Старшыня колгасу «Серп і Молат» Камышоў сьвядома давёў колгас да развалу.

Старшыня сельсавету Патапенка—комуніст, п'е з кулакамі, хавае сьпісы кулакоў, пралезшых у колгас. У рэзультаце правальваецца

загатоўка ільну па гэтым сельсавеце.

З 28 ячэек гэтага раёну, у 11, г. зн. у 40 проц. ячэек сядзелі такія людзі.

**Талочынскі** раён. Кулацкія антысавецкія элемэнты праніклі ў рады організацыі і нават у кіраўніцтва ячэек і раённых організацый. Сакратарамі Скуратаўскай, Еўлахаўскай ячэек былі беспартыйныя людзі. Сакратар Аляксееўскай ячэйкі ня мае партдакуманту; ці зьяўляецца ён партыйцам—не ўстаноўлена, і т. д. і да т. п.

Кулакі «дзейнічалі», а ў гэты час рад раённых організацый займаўся спачываньнем на лаўрах, дабрадушнічаў.

**Нароўля:** Мухаедаўскі сельсавет самы аддалены. Ён патрабаваў з боку раённага кіраўніцтва самай пільнай увагі і помачы. Калі прыехалі ўпаўнаважаныя ЦК, сяляне зьдзівіліся: «У нас,—кажуць яны,—рэдка бываюць раённыя работнікі, а тут цэнтральныя прыехалі».

Кулакі «дзейнічалі», а ў гэты час некаторыя раённыя «работнікі» заяўлялі (Чаускі раён): «Мы ня мо-

жам дазволіць у сябе ў раёне «лёвыя» загібы ў адносінах да кулака».

Бязьлітасная барацьба і ачыстка радоў партыі ад перарадзіўшыхся антысавецкіх элемэнтаў, ідэйнае ўзбраеньне комуністаў, павышэньне іх рэволюцыйнай пільнасьці зьяўляецца асноўнай прадпасылкай боядольнасьці партыі ў барацьбе за соцыялізм.

«Асноўнай запаведзьдзю комуніста і галоўнай прадпасылкай далейшага руху ўперад павінна быць рэволюцыйная пільнасьць і гатоўнасьць разьбіць клясавага ворага» (рэзолюцыя).

## 2. ПРОГРАМА ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ І ПЛЯН 1933 г.

«Першая пяцігодка была пяцігодкай **будаўніцтва новых заводаў...** пяцігодкай будаўніцтва новых прадпрыемстваў у земляробстве— колгасаў і саўгасаў. Другая пяцігодка будзе пераважна пяцігодкай **асваеньня новых прадпрыемстваў** у прамысловасьці, пяцігодкай організацыйнага ўмацаваньня новых прадпрыемстваў у сельскай гаспа-

дарцы—колгасаў і саўгасаў» (рэзолюцыя).

Асвоіць новыя прадпрыемствы— такая цэнтральная задача програмы другой пяцігодкі, пастаўленая партыяй перад рабочай клясай і працоўнымі краіны.

Але што азначае асвоіць прадпрыемства?

Гэта значыць вывучыць і асвоіць усе тэхнолёгічныя процэсы, г. зн. правільна організаваць працу, павысіць якасьць, падняць продукцыйнасьць працы, зьнізіць сабекошт, укомплектаваць прадпрыемства адпаведнымі кадрамі інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу, кваліфікаванай рабочай сілай.

Процэс асваеньня новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі гэта больш цяжкая задача, якая патрабуе большага часу, чым выкарыстаньне старых або адноўленых прадпрыемстваў, тэхніка якіх ужо асвоена.

Таму: «ці ня ясна... што, **калі-б нават хацелі,** мы **не маглі-б** ажыцьцявіць у пэрыод другой пяцігодкі, асабліва ў першыя 2—3 гады другой пяцігодкі, політыку найбольш

паскораных тэмпаў разьвіцьця»? (Сталін).

Адсюль рэзолюцыя пленуму: «сярэднягадавы прырост прамысловай продукцыі для другой пяцігодкі павінен быць запроектаван не 21—22 проц., як гэта мела месца ў першай пяцігодцы, а некалькі менш—прыкладна 13—14 проц.»

«У рэзультаце пасьпяховага правядзеньня пяцігодкі мы ўжо выканалі ў асноўным яе галоўную задачу—падвядзеньне базы новай сучаснай тэхнікі пад прамысловасьць, транспорт, сельскую гаспадарку. Ці варта пасьля гэтага падхлістваць і падганяць краіну? Ясна, што няма ў гэтым цяпер неабходнасьці»...

«У рэзультаце пасьпяховага выкананьня пяцігодкі нам удалося ўжо падняць абароназдольнасьць краіны на належную вышыню. Ці варта пасьля гэтага падхліставаць і падганяць краіну? Ясна, што цяпер няма ў гэтым неабходнасьці» (Сталін).

Ці азначае пераход да палітыкі менш паскораных тэмпаў разьвіцьця памяншэньне размаху работ у другой пяцігодцы ў параўнаньні

ДЛЯ ЗАЎВАГ

з папярэднімі гадамі? Ні ў якім разе.

**Тэмпы цяпер** ажыцьцяўляюцца **на новай** аснове—новых гігантаў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, створаных першай пяцігодкай.

Што прадстаўляе ў нас цяпер **кожны процант** прыросту прамысловай продукцыі?

Калі ў 1925 г. пры гадавым прыросьце продукцыі на 66 проц. кожны процант прыросту раўняўся 43 млн. руб., то ў 1928 г. пры ўтрая меншым процанце прыросту (26) кожны процант складае ўжо амаль утрая большую суму—120 млн., а ў 1931 г., ня гледзячы на тое, што процант прыросту продукцыі быў таксама ўтрая меншы, чым у 1925 г. (22 проц.), кожны процант прыросту складае ўжо ў 6 разоў больш, чым у 1925 г.,—250 млн. руб.

У 1933 г. намечан прырост прамысловай продукцыі ў 16,5 проц. замест 22 проц. у мінулым годзе. Але гэтыя 16,5 проц. у 1933 г. азначаюць **прырост усёй прамысловай продукцыі** ў 6 млрд. руб., у той час,

як **22** проц. прыросту 1932 г. азначае толькі 3 400 млн. руб.



Па програме **капітальных укладаньняў** (18 млрд. руб.)—укладаньні ў прамысловасьць у 1933 г. **вышэй** укладаньняў у прамысловасьць 1932 г. (10,1 млрд.—супроць 9,16 млрд. у мінулым годзе). Каля 3 млрд. руб. укладваецца ў транспорт, звыш 2 млрд.—у соцыялістычную сельскую гаспадарку. **Капітальнае будаўніцтва** лёгкай прамысловасьці павялічваецца на 48 проц.

1933 г. ёсьць год далейшага гіганцкага руху ўперад па шляху да соцыялізму, год уваходжаньня ў строй новых магутных гігантаў будаўніцтва.

Але асноўная лінія, **асноўнае зьвяно** пераможнага соцыялістычнага **наступленьня ў другой пяцігодцы—гэта лінія барацьбы за якасныя** паказальнікі.

«Продукцыйнасьць працы—гэта ў апошнім ліку самае важнае, **самае галоўнае** для перамогі новага грамадзкага ладу. Капіталізм стварыў продукцыйнасьць працы, нябачаную пры прыгоньніцтве. Капіталізм можа быць **канчаткова** пераможан

і будзе канчаткова пераможан тым, што соцыялізм створыць **новую, значна больш высокую** продукцыйнасьць працы» (Ленін). (Падкрэсьлена. **Рэд.**).

Партыя кіравалася гэтым указаньнем Леніна ў першай пяцігодцы і разграміла капіталістычныя элемэнты.

Партыя высоўвае гэтую задачу як **галоўную** ў другой пяцігодцы, каб дабіцца **поўнай** перамогі соцыялізму і **канчаткова** дабіць рэшткі паміраючых кляс.

Па пляне 1933 г. у прамысловасьці заданьне па павышэньні продукцыйнасьці працы, намечанае для бягучага году, **вышэй** сярэдняга **ўзроўню павышэньня** продукцыйнасьці працы за апошнія гады.

Заданьне пленуму: «Устанавіць на 1933 г. у параўнаньні з 1932 г. рост продукцыйнасьці працы па **прамысловасьці** на 14 проц.

Кожны процант прыросту продукцыйнасьці працы раўняецца 290 млн. руб. Павышэньне продукцыйнасьці працы (па 4-х наркоматах) павінна даць дзяржаве прырост валавой продукцыі на суму ў 4 млрд. руб.

Па БССР. Па пляну 1933 г. неабходна павысіць продукцыйнасьць працы па НКЦяж—15,9 проц., НКЛег—10,6 проц., НКЛес—33,4 проц. і г. д.

Але партыя змагаецца не за ўсякае павышэньне продукцыйнасьці працы, партыя змагаецца за такую продукцыйнасьць, якая азначае **рашучы зрух** у вобласьці павышэньня **якасьці** продукцыі і **зьніжэньня сабекошту.**

Дырэктыва пленуму: «Сконцэнтраваць галоўны ўпор не на колькасным росьце продукцыі, а на палепшаньні якасьці продукцыі і росьце продукцыйнасьці працы».

«Зьнізіць сабекошт на працягу аднаго году па прамысловасьці ў цэлым на 4 проц., па саўгасах—на 8 проц., па будаўніцтве — на 15 проц.».

Па БССР:

НКЦяж—7,66 проц.;

НКЛег—3 проц.;

НКСнаб—2,2 проц.

Зьніжэньне сабекошту патрабуе самай рашучай барацьбы з усімі праявамі безгаспадарчасьці, разгільдзяйства, недапушчальнага раздуваньня штатаў, марнатраўнага

расходваньня сродкаў. З савецкай гаспадаркі павінны быць бязьлітасна выгнаны буржуазныя пераραджэнцы і іх памочнікі і падпявалы, якія ігноруюць інтарэсы пролетарскай дзяржавы, груба скажаюць яе дырэктывы, разбазарваюць сродкі і вядуць даверануют ім гаспадарку, як прыватныя гандляры, а не як прызначаныя савецкай уладай чырвоныя камандзіры вытворчасьці.

Барацьба за павышэньне продукцыйнасьці працы, павышэньне якасьці продукцыі і зьніжэньне сабекошту патрабуе ўзмацненьня барацьбы за гаспадарчы разьлік, за соцыялістычнае накапленьне, патрабуе рашучай барацьбы з усякімі «лявацкімі» недаацэнкамі значэньня грошай, контролю рублём і соцыялістычнага накапленьня і ня менш рашучай барацьбы выкрыцьця, ліквідацыі ў тэорыі і на практыцы праваопортуністычных вузкадзяляцкіх позыцый, падпарадкоўваючых інтарэсам моманту вялікія соцыялістычныя задачы.

Адказьнейшай задачай 1933 г. зьяўляецца ліквідацыя адставаньня раду важнейшых галін прамысло-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

васьці, якія ў мінулым годзе недавыканалі свой плян. На першым месцы тут чорная мэталюргія, якая прадаўжае працаваць нездавальняюча. Плян 1933 г. патрабуе выплаўкі 9 млн. т чыгуну—на 44 проц. больш фактычнай выплаўкі мінулага году, выпуск 6,2 млн. т пракату—на 48 проц. вышэй выпуску 1932 г. У рабоце мэталюргіі павінен быць нарэшце дасягнут рашучы пералом. Яе адставаньне тармозіць разьвіцьцё іншых галін прамысловасьці, рэконструкцыю транспорту, мэханізацыю соцыялістычнага земляробства.

Дабіцца пералому павінна і вугольная прамысловасьць, заданьне якой на 1933 г. складае 84 млн. т. Важнейшае значэньне мае барацьба за праграму лёгкай індустрыі, якая павінна даць продукцыі на 8,8 млрд. руб., харчовая прамысловасьць павінна даць продукцыі на 7,7 млрд. руб.

300 млн. т грузаабароту і 58 тыс. сярэднясутачнай нагрузкі вагонаў—баявое заданьне соцыялістычнаму транспорту, якасьць работы якога прадаўжае адставаць ад патрабаваньняў народнай гаспадаркі.

**У пляне 1933 г.** адлюстроўваюцца дастаткова яскрава **ленінская нацыянальная політыка** і далейшыя зрухі прамысловасьці на Ўсход. Гэта можна прасачыць на ўсіх проектаваньнях пляну першага году пяцігодкі. Возьмем напрыклад вугаль. У той час, як уся здабыча каменнага вугалю ўзрастае ў 1933 г. на 29 проц., здабыча на Урале павялічваецца на 55 проц., у Кузбасе—на 62 проц., а Караганды—на 143 проц.

Пры сярэднім прыросьце валавой продукцыі па СССР у 1933 г. на **16,5 проц.** проект прадугледжвае ў БССР прырост на **28 проц.,** а па групе «А» нават на **41,7 проц.**

У вобласьці снабжэньня пленум падкрэсьліў задачу выкананьня дырэктыў па шырспажыве, павялічэньне продукцыі па шырспажыве на 10 проц. У вобласьці **харчовага снабжэньня** плян 1933 г. намячае далейшае палепшаньне, падкрэсьліваючы разам з тым, што для палепшаньня снабжэньня «рашаючае значэньне мае **організацыя** снабжэньня, а таксама організацыя сыстэмы загатовак» (М о л а т а ў)

Неабходна перш за ўсё забясьпе-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

чыць, каб тыя прамтаварныя і харчовыя фонды, якія ў нас ёсьць, «ішлі туды, куды трэба, і разьмяркоўваліся-б у сапраўднай адпаведнасьці з асноўнымі нашымі патрэбамі» (М о л а т а ў).

**У вобласьці загатовак** — пераход ад мэтоду цэнтралізаваных загатовак да загатовак збожжа, мяса і масла ў парадку падатку і дэцэнтралізаваныя плянавыя арганізаваныя загатоўкі па пэўных асобых цэнах (конвэнцыйных), рэгулюемых дзяржавай з боку арганізацый, атрымаўшых дазвол.

**У вобласьці гандлю** — разгортваньне савецкага гандлю на аснове строгага выкананьня ўстаноўленых цэн, разьвіцьця колгаснага гандлю бяз «прыватнікаў», без капіталістаў і спэкулянтаў «пры пэўным рэгуляваньні цэн з боку дзяржавы і на колгасных базарах, для барацьбы з паасобнымі спэкулянцкімі элемэнтамі з колгасьнікаў» (М о л а т а ў).

**У вобласьці зарплаты** плян 1933 г. прадугледжвае рост зарплаты па прамысловасьці на 9 проц. у параўнаньні з сярэднягадовым узроўнем зарплаты 1932 г., рост рас-



ДЛЯ ЗАЎВА

ходаў на социяльна-бытавыя і культурныя патрэбы рабочых.

Мерапрыемствы партыі ў вобласьці сельскай гаспадаркі ствараюць умовы для далейшага ўздыму матэрыяльнага становішча колгаснага сялянства.

## Плян 1933 г. у сельскай гаспадарцы

**Барацьба за соцыялістычную якасьць** зьяўляецца **цэнтральнай задачай** народна-гаспадарчага пляну і ў вобласьці сельскай гаспадаркі.

Колектывізацыя ў асноўным завершана. У 1932 г. ¾ сялянскіх пасеваў засеялі колгасы.

Галоўная задача цяпер — не расшырэньне пасеўных плошчаў, а падняцьце **продукцыйнасьці** працы, **павышэньне ўраджайнасьці,** стварэньне **павароту** ў вобласьці жывёлагадоўлі.

У цэнтры ўвагі — політычнае, організацыйнае і гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў.

**Програма 1933 г.** «Пры нязьменным супроць 1933 г. разьмеры па-

сеўных плошчаў — падняцьце ўраджайнасьці па зерневых культурах на 13 проц., па бавоўне — на 8, ільне — 20 проц., сланечніку — 25 проц., цукровых буракох — 32 проц.» (рэзолюцыя).

Па БССР — мінімальныя заданьні на 1933 г.: зерневыя 6,3 проц., бульбы—31,6 проц., ільну—50 проц.

Што дасьць **рэальную магчымасьць** выканаць гэтую праграму?

Наяўнасьць пануючага становішча колгасаў і саўгасаў, дзе аб'яднаныя сялянскія гаспадаркі апіраюцца на створаную ў рэзультаце першай пяцігодкі перадавую сельскагаспадарчую тэхніку.

Наяўнасьць 2½ тыс. МТС — галоўнейшых вагароў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, якія павінны стаць ня тольки **організацыйна-тэхнічнымі,** але і політычнымі цэнтрамі ў колгасным будаўніцтве.

Ад чаго залежыць ператварэньне гэтай магчымасьці ў **сапраўднасьць?**

«Справа ў даным выпадку перш за ўсё залежыць **ад нас,** ад нашага **ўменьня** організаваць масы, ад на-

шай **актыўнасьці** ў барацьбе за падняцьце продукцыйнасьці працы на колгасных і саўгасных палёх. Справа будзе залежыць ад **уменьня організаваць** працу, асабліва пры пасеве і ўборцы, ад уменьня **даць адпор** пранікшым у колгасы і саўгасы **ворагам савецкай улады** і колгаснага будаўніцтва, ад **уменьня згуртаваць вакол** сапраўдных перадавых організатараў і адданых колгаснай справе таварышоў усю асноўную масу колгасьнікаў для барацьбы за працоўную дысцыпліну і сумленныя адносіны да колгаснага дабра, супроць гультаёў, супроць раскрадальнікаў і зладзеяў і, перш за ўсё, супроць кулацкіх і іншых контррэволюцыйных элемэнтаў, якія хаваюцца за іх сьпіною» (Молатаў). (Падкрэсьлена. **Рэд**).

* * *

**Плян 1933 г.** ёсьць **прадаўжэньне** і далейшае пасьлядоўнае разьвіцьцё генэральнай лініі партыі ва ўмовах пераможнага завяршэньня першай пяцігодкі, перамогі прынцыпу соцыялізму ва ўсіх абласьцях народнай гаспадаркі,

Барацьба за асваеньне новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі, за соцыялістычную якасьць колгасаў, саўгасаў і МТС — гэта **паглыбленьне** соцыялістычнага наступленьня, **барацьба** за канчатковае **выкараненьне** ўсіх рэштак варожых кляс і **іх уплываў,** укараненьне соцыялістычнай якасьці ва ўсе клетачкі соцыялістычнага будаўніцтва.

Толькі контррэволюцыянэры тыпу Троцкага і опортуністы ўсіх масьцей могуць клеветаць на плян 1933 г. і другую пяцігодку як *ад*ступленьне.

Іменна таму, што 2-я пяцігодка і **плян 1933 г.** ёсьць **найбольш глыбокае выражэньне соцыялістычнага наступленьня,** іменна таму ўзмацняе сваё супраціўленьне, зьмяняе сваю тактыку разьбіты ў адкрытым баі клясавы вораг.

І іменна таму ў барацьбе за 2-ю пяцігодку і плян 1933 г. узрастае роля і значэньне **якасьці партыйнага кіраўніцтва,** клопаты і адказнасьць пролетарскай дзяржавы за соцыялістычную прамысловасьць, за колгасы, як за соцыялістычную форму гаспадаркі, адказнасьць за ахову асновы савецкага ладу —

грамадзкай уласнасьці, адказнасьць перад працоўнымі СССР і пролетарыятам усіх краін.

Вось чаму ўмовай выкананьня 2-й пяцігодкі і пляну 1933 г. зьяўляецца ўмацаваньне магутнасьці пролетарскай дыктатуры, бязьлітасная барацьба з клясавым ворагам, з малейшымі праявамі чужых нам уплываў.

Барацьба са зладзействам, рвацтвам, шкодніцтвам, парушэньнем працоўнай дысцыпліны, прагуламі, безгаспадарчасьцю, спэкуляцыйнымі тэндэнцыямі і «лявацкімі» скажэньнямі ў практыцы гаспадарчага разьліку ў прамысловасьці.

Барацьба з раскраданьнем маёмасьці, з саботажам у выкананьні дзяржаўных абавязкаў, спэкулятыўнымі скажэньнямі колгаснага гандлю, з безгаспадарчасьцю ў колгасах, саўгасах і МТС.

«У пэрыод першай пяцігодкі мы здолелі організаваць энтузіязм, патос **новага будаўніцтва** і дабіліся рашаючых посьпехаў. Гэта вельмі добра, але цяпер гэтага недастаткова. Цяпер гэту справу мы павінны дапоўніць энтузіязмам, патосам **асваеньня** новых заводаў і новай

тэхнікі, сур'ёзным падняцьцем продукцыйнасьці працы, сур'ёзным скарачэньнем сабекошту. **У гэтым цяпер галоўнае.** Бо толькі на гэтай базе мы можам дабіцца, скажам, к другой палавіне другой пяцігодкі новага магутнага разьбегу як у вобласьці будаўніцтва, так і ў вобласьці прыросту прамысловай продукцыі» (Сталін).

## 3. РАБОТА НА ВЁСЦЫ

1. Важнейшай задачай у барацьбе партыі і рабочай клясы за 2-ю пяцігодку і плян 1933 г. зьяўляецца барацьба за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі і завяршэньне социялістычнага перабудаваньня вёскі.

У наяўнасьці ўсе **об'ектыўныя** прадпасылкі для далейшага пераможнага ходу і поўнай перамогі социялізму, бо колгас як социялістычная форма гаспадаркі зьяўляецца адзіным шляхам, якім асноўная маса сялянства можа быць прыведзена да социялізму.

Але ці азначае перамога колгаснага ладу наяўнасьць **усяго** неаб-

ходнага для пабудаваньня соцыялізму?

Яшчэ ў пачатку пяцігодкі, калі колгасы не займалі пануючага становішча ў краіне—у 1929 г., **т. Сталін** у сваёй прамове на зьезьдзе аграрнікаў-марксыстаў выкрыў усю памылковасьць падобных поглядаў.

«Было-б памылкова думаць, што калі дадзены колгасы, то дано ўсё неабходнае для пабудаваньня соцыялізму. Тым больш памылкова было-б думаць, што члены колгасаў ужо ператварыліся ў соцыялістаў. Не, прыдзецца яшчэ многа папрацаваць над тым, каб перарабіць селяніна-колгасьніка і зрабіць з яго сапраўднага працоўніка соцыялістычнага грамадзтва» (Сталін).

Такую-ж ацэнку колгасам даў **т. Сталін** у сваім гістарычным програмным выступленьні на пленуме па пытаньні аб рабоце ў вёсцы, выступленьні, якое дае найглыбейшы тэорэтычны аналіз і намячае практычныя задачы работы ў вёсцы.

«Колгасы і саветы прадстаўляюць толькі форму організацыі, праўда соцыялістычную, але ўсё-ж

форму арганізацыі. Усё залежыць ад таго, які зьмест будзе ўліт у гэту форму» (Сталін).

«З пункту гледжаньня ленінізму колгасы, як і саветы, узятыя, як форма арганізацыі, ёсьць зброя і толькі зброя. Гэтую зброю можна пры пэўных умовах накіраваць супроць рэволюцыі. Яе можна накіраваць супроць контррэволюцыі. Яна можа служыць рабочай клясе і сялянству. Яна можа служыць пры пэўных умовах ворагам рабочай клясы і сялянства. Уся справа ў тым, у чыіх руках знаходзіцца гэтая зброя і супроць каго яна будзе накіравана» (Сталін).

Праводзячы політыку найбольш паскораных тэмпаў колектывізацыі сельскай гаспадаркі, партыя непарыўна спалучала гэтую работу з барацьбой за соцыялістычную пераробку селяніна ўнутры колгасу.

Цяпер, калі колгасы перамаглі, яшчэ больш узрасла адказнасьць партыі і дзяржавы ў справе соцыялістычнай пераробкі селяніна. І тут асабліва важна, як падкрэсьліў у сваёй прамове т. **Сталін**, наступнае: колгасы, будучы толькі соцыялістычнай формай арганізацыі, «ня



ДЛЯ ЗАЎВАГ

толькі не гарантаваны ад пранікненьня антысавецкіх элемэнтаў, але прадстаўляюць нават у першы час некаторыя зручнасьці для часовага выкарыстаньня іх контррэвалюцыянэрамі» пастолькі, паколькі яны зьяўляюцца **гатовай формай масавай арганізацыі,** дзе контррэвалюцыйная дзейнасьць антысавецкіх элемэнтаў можа даць большы эфэкт, чым ва ўмовах раздробленай і аддзеленай адна ад аднэй індывідуальнай сялянскай гаспадаркі.

У колгасах ёсьць і глеба для чужых пролетарыяту клясавых ўплываў: гэта прыватнаўласьніцкія перажыткі колгасьнікаў — учарайшых аднаасобнікаў.

Вось чаму клясавы вораг **галоўным об'ектам сваёй** «дзейнасьці» выбраў колгасы, спрабуючы **з гэтага** флянгу атакаваць моц соцыялізму.

«Гаспадарча-разьбіты, але яшчэ ня страціўшы канчаткова свайго ўплыву кулак, былыя белыя офіцэры, былыя папы, іх сыны, былыя кіраўнічыя памешчыкаў і цукразаводчыкаў, былыя ўраднікі і іншыя антысавецкія элемэнты з буржуазна-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

нацыяналістычнай, і ў тым ліку эсэраўскай і пятлюраўскай інтэлігенцыі, асеўшыя на сяле, усяляк стараюцца разлажыць колгасы, стараюцца сарваць мерапрыемствы партыі і ўраду ў вобласьці сельскай гаспадаркі, выкарыстоўваючы ў гэтых мэтах несьвядомасьць часткі колгасьнікаў, супроць інтарэсаў грамадзкай, колгаснай гаспадаркі, супроць інтарэсаў колгаснага сялянства.

Пранікаючы ў колгасы ў якасьці рахункаводаў, загадчыкаў гаспадаркі, кладаўшчыкоў, брыгадзіраў і да т. п., а нярэдка і ў якасьці кіруючых работнікаў праўленьняў, яны імкнуцца арганізаваць шкодніцтва, псуюць машыны, сеюць з агрэхамі, раскрадаюць колгаснае дабро, падрываюць працоўную дысцыпліну, арганізуюць крадзеж насеньня, тайныя клеці, саботаж збожжазагатовак,—і часам удаецца ім разлажыць колгасы.

Пралазячы ў саўгасы ў якасьці загадчыкаў гаспадаркі, бухгальтараў, паляводаў, кладаўшчыкоў, кіруючых аддзяленьнямі і інш., гэтыя антысавецкія элемэнты шкодзяць саўгаснаму будаўніцтву наўмыснай

паломкай трактараў, комбайнаў, дрэннай апрацоўкай зямлі, дрэнным доглядам за жывёлай, разлажэньнем працоўнай дысцыпліны, раскраданьнем саўгаснай маёмасьці, асабліва яго продукцыі (збожжа, мяса, малако, масла, шэрсьць і т. д.)» (рэзолюцыя).

У барацьбе з надзеўшым маску клясавым ворагам, за соцыялістычную якасьць колгасаў, за большасьць у колгасах, нязьмерна вырастае роля дзяржаўнага апарату, роля партыйнага і савецкага кіраўніцтва.

Пераважная большасьць сялян аб'яднана ў колгасы.

Гэта значыць, што цэнтр цяжару адказнасьці за гаспадарку перамясьціўся з паасобнага селяніна на кіраўніцтва колгасу. Гэта значыць, што кіраўніцтва колгасамі павінна быць максымальна конкрэтным, што трэба як ніколі ведаць кожны колгас і кожнага колгасьніка.

«Гэта значыць, што партыя ўжо ня можа цяпер абмежавацца паасобнымі актамі ўмяшаньня ў процэс сельскагаспадарчага разьвіцьця. Яна павінна цяпер узяць у свае рукі кіраўніцтва колгасамі, прыняць на

сябе адказнасьць за работу і памагчы колгасьнікам весьці сваю гаспадарку ўперад на аснове даных навукі і тэхнікі.

А што мы бачым на справе? На справе мы бачым адарванасьць цэлага раду раённых і абласных арганізацый ад жыцьця колгасаў, ад іх запатрабаваньняў. Сядзяць людзі ў канцылярыях і самадаволена скрыпяць пер'ямі, не заўважаючы, што разьвіцьцё колгасаў ідзе міма бюрократычных канцылярый.

Пераход ад індывідуальнай гаспадаркі да колгасаў павінен быў прывесьці да ўзмацненьня кіраўніцтва комуністаў у вёсцы. А на справе ў радзе выпадкаў гэты пераход прывёў да таго, што комуністы спачылі на лаўрах, казыраючы высокім процантам колектывізацыі і прадставілі справу самацёку, прадставілі справу натуральнаму ходу рэчаў. На справе ў радзе выпадкаў атрымалася тое, што комуністы аказаліся ў нецях, а ў колгасах кіравалі былыя белыя афіцэры, былыя пятлюраўцы і наогул ворагі рабочых і сялян» (С т а л і н).

Таварыш Сталін у сваёй прамове асабліва падкрэсьліў той момант,

што посьпех далейшага руху ўперад **амаль цалкам** залежыць **ад** якасьці партыйных кадраў вёскі.

«Колгасы як соцыялістычная форма організацыі гаспадаркі могуць паказаць цуды гаспадарчага будаўніцтва, калі на чале іх стаяць сапраўдныя рэволюцыянэры, бальшавікі, комуністы».

Посьпех далейшага руху ўперад амаль цалкам залежыць ад моцы пролетарскай дыктатуры, ад пролетарскай дзяржавы, адыгрываючай у справе пабудаваньня соцыялізму вялікую пераўтвараючую рэволюцыйную ролю.

«Самацёк цяпер больш чым калі-небудзь небясьпечны для справы разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Самацёк цяпер можа загубіць усю справу» (Сталін).

Самацёк цяпер раўнасільны перадачы кіраўніцтва колгасным рухам у рукі варожых клясавых сіл.

«Пры такой вострай клясавай барацьбе, якая ёсьць у нас цяпер у савецкай краіне, для «нэйтральных колгасаў» не астаецца ўжо месца, пры такой абстаноўцы колгасы могуць быць **або** бальшавіцкімі, **або** антысавецкімі. Калі мы

ня кіруем у тых або іншых колгасах, то г. зн., што імі кіруюць антысавецкія элемэнты. У гэтым ня можа быць ніякага сумненьня» (Сталін).

Гэтае ўказаньне т. **Сталіна** набывае асобае значэньне ва ўмовах БССР, дзе процант колектывізацыі сельскай гаспадаркі складае толькі 43. Недапушчальным у практыцы работы партыйных і савецкіх організацый Беларусі зьяўляецца ігнараваньне аднаасобніка, ігнараваньне ўказаньня Леніна аб двух душах селяніна: душы працоўніка і душы ўласьніка-спэкулянта.

II. Ход загатовак у 1932 г. з асаблівай вастратой ускрыў слабасьць політычнай работы і буйнейшыя недахопы партыйнай работы ў вёсцы, бо «збожжа заўсёды было тым асёлкам, на якім правяралася наша сіла і наша слабасьць, на якім правяралася сіла і слабасьць нашага ворага. Так было з самага пачатку рэволюцыі, бо збожжа зьяўляецца асновай усяго» (Кагановіч).

Гэтыя недахопы работы ў вёсцы былі з усім вастрыём ленінскай баль-

шавіцкай самакрытыкі, з усёй рэзкасьцю і вострынёй ускрыты т. Сталіным у яго прамове, якая стала вялізарным гістарычным праграмным дакумантам у рабоце партыі па соцыялістычнай перароблцы селяніна.

Якія асноўныя недахопы партыйнай работы ў вёсцы, указаныя т. Сталіным?

1. Тое, што рад вясковых работнікаў «ня здолелі ўлічыць новай абстаноўкі ў вёсцы, створанай аб'яўленьнем колгаснага гандлю, збожжам», гандлю, які азначаў легалізацыю рыначнай больш высокай цаны на збожжа, чым устаноўленая дзяржаўная цана.

У рэзультаце, замест таго, каб усямерна ўзмацняць і падганяць збожжазагатоўкі, яны сталі падганяць утварэньне ўсякага роду фондаў.

ЦК УсеКП(б) у сваіх дырэктывах падкрэсьліваў неабходнасьць форсаваць загатоўкі, а між тым рад партыйных організацый, у тым ліку як цэнтральныя, так і мясцовыя партыйныя і савецкія організацыі Беларусі праявілі гніла-лібэ-

ральныя адносіны да гэтага пытаньня. Рад партыйных арганізацый БССР, таксама як і рад партыйных арганізацый іншых рэспублік Саюзу, ня ўлічылі таго, што, побач са станоўчымі бакамі, колгасны гандаль мае і адмоўныя бакі (імкненьне сялян пабольш прадаваць на рынку, па больш дарагой цане і паменш даць дзяржаве). Яны ня здолелі сваім **арганізаваным** палітычным уплывам паралізаваць гэты адмоўны бок колгаснага гандлю і забясьпечыць выкананьне дзяржаўнага пляну загатовак, ня выканалі ўказаньняў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб забароне гандлю збожжам колгасьнікамі і аднаасобнікамі да поўнага выкананьня пляну загатовак, не праводзілі ў дастатковай меры барацьбы з кулаком, спэкулянтам і перакупшчыкам збожжа.

2. Тое, што рад работнікаў «не зразумелі зьмяненьня ўмоў нашай работы ў вёсцы, якое адбылося ў сувязі з умацаваньнем пануючага становішча колгасаў у асноўных збожжавых раёнах».

У рэзультаце яны справу соцыялістычнага ўмацаваньня колгасаў



ДЛЯ ЗАЎВАГ

прадаставілі **самацёку,** «лічачы, што колектывізацыя сама зробіць сваю справу сама падыме сельскую гаспадарку». І гэта ў той час, калі цэнтр цяжару перамясьціўся цяпер ад асобнага селяніна, які раней адзін нёс адказнасьць за сваю гаспадарку, на кіраўніцтва колгасу; у той час; калі сама сутнасьць колгасу як плянавай гаспадаркі не дазваляе прадаставіць вядзеньне такой гаспадаркі натуральнаму ходу рэчаў, самацёку.

3. Тое, што многія работнікі «пераацанілі колгасы як новую форму гаспадаркі, ператварылі яе ў ікону». Сапраўды, колгас сам па сабе толькі соцыялістычная форма прадпрыемства. Ці стануць колгасы прыладай рэволюцыі — гэта залежыць ад кіраўніцтва імі з боку комуністаў. У рэзультаце пераацэнкі колгасаў—паслабленьне клясавай пільнасьці, пранікненьне ў рад колгасаў чужых элемэнтаў і чужых уплываў.

4. Цэлы рад парторганізацый ня здолелі перабудаваць фронт барацьбы з кулаком, бо не зразумелі, што клясавы вораг зьмяніў свой твар, сваю тактыку, перайшоў ад

прамой атакі супроць колгасаў да работы ціхай сапай.

«Кулакі разьбіты, але яны далёка яшчэ недабіты. Больш таго, — яны ня хутка яшчэ будуць дабіты, калі комуністы будуць зяваць і дабрадушнічаць, лічачы, што кулакі самі сыйдуць у магілу ў парадку так сказаць стыхійнага свайго разьвіцьця» (Сталін).

І ў БССР мы мелі такое становішча, калі рад парторганізацый Беларусі паддаліся опортуністычным самацёчным настроям у пытаньні аб выкананьні вызначаных плянаў цэнтралізаваных загатовак, не зразумеўшы, што загатоўкі гэтага году праводзіліся ў абстаноўцы ўзмоцненага супраціўленьня клясавага ворага, які зьмяніў сваю тактыку, замаскаваў сваю контррэволюцыйную дзейнасьць.

У выніку гэтага ня былі прыняты сваячасовыя меры барацьбы супроць кулака, супроць кулацкага саботажу загатовак, супроць кулацкіх уплываў у колгасах. Ня былі прыняты сваячасовыя захады для таго, каб ачысьціць колгасы ад пранікшых туды антысавецкіх элемэнтаў, разгарнуць сапраўднае

бальшавіцкае кіраўніцтва па арганізацыйна - гаспадарчым умацаваньні колгасаў, па выкананьні дзяржаўных загатовак.

Ня былі прыняты сваячасовыя захады для ачысткі парторганізацый ад няздольных праводзіць лінію партыі і бальшавіцкага кіраўніцтва колгасамі опортуністычных элемэнтаў, якія перарадзіліся, сталі чужымі, самкнуліся з кулаком, аказваюць кулаку прамую і непасрэдную помач.

У рэзультаце мы па Беларусі мелі на працягу лістапада і першай палавіны сьнежня месяца ганебнае адставаньне ў выкананьні пляну загатовак. На 1 сьнежня 1932 г. па збожжы было выканана толькі 50,4 проц., ільне — 25 проц., ільнанасеньні — 57,4 проц., мясе — 32 проц., на 20 сьнежня — збожжа — 67,6 проц., лён — 37,6 проц., бульба — 74 проц. і т. д.

ЦК УсеКП(б) указала парторганізацыі Беларусі на гніла-лібэральныя адносіны да выкананьня дзяржаўных загатовак як з боку цэнтральных, так і мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый.

На падстве гэтых указаньняў ЦК УсеКП(б) указала парторганізацыі Беларусі на недахопы і памылкі ў яе рабоце.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало пры падтрымцы ўсёй парторганізацыі БССР здолеў дабіцца карэннага пералому ў ходзе загатовак і ліквідаваць ганебнае адставаньне.

На працягу 10 дзён па БССР было загатоўлена каля 40 проц. гадавога пляну збожжазагатовак. На 1/І — у тэрмін, устаноўлены ЦК УсеКП(б), плян па збожжы быў выканан на 102 проц., па мясе — на 119 проц.

У барацьбе за загатоўкі ЦК КП(б)Б здолеў організаваць конкрэтнае баявое опэратыўнае кіраўніцтва раёнамі, організаваць масавую помач раёнам, організаваць і ўзначаліць ўздым у партыі і энтузіязм працоўных на аснове сапраўднай бальшавіцкай самакрытыкі, організаваць і ўзначаліць рашучую і бязьлітасную барацьбу з кулацкім супраціўленьнем, кулацкімі ўплывамі ў колгасах, з кулацкай агентурай унутры партыі —

апартуністычнымі перараджэнцкімі буржуазна-нацыяналістычнымі элемэнтамі.

З такой-жа бальшавіцкай настойлівасьцю ЦК КП(б)Б змагаецца за пасьпяховае і поўнае завяршэньне сельскагаспадарчых загатовак, у прыватнасьці па ільне, за бальшавіцкую падрыхтоўку вясеньняй сяўбы, за засыпку насенных і страхавых фондаў, рамонт трактарнага парку, МТС і т. д.

Мы ня справімся з задачамі сяўбы, калі конкрэтна, па-бальшавіцку, па-дзелавому не арганізуем яе падрыхтоўкі, калі ня будзем ведаць, хто адказвае за трактар у часе сяўбы, хто адказвае за рамонт яго, хто займаецца ўгнаеньнямі, хто ахоўвае сабранае насеньне, хто яго ачышчае. Нам трэба дабіцца ў нашай рабоце сапраўднай опэрацыйнасьці, сапраўды бальшавіцкага веданьня справы. Нам трэба дабіцца, каб усюды на мясцох адчувалася, што, уступаючы зараз у другую пяцігодку, мы ня толькі паслабляем, але ўсямерна ўзмацняем тэмпы нашай работы ў сэнсе якасьці, чоткасьці, у сэнсе

конкрэтнасьці, заваcтраючы барацьбу з агульна-славеснай дэклярацыйнасьцю, алілуйшчынай у рабоце.

У ходзе загатовак, у ходзе бязьлітаснай барацьбы з кулацтвам, з перараджэнцкімі элемэнтамі на вёсцы—згуртаваўся новы моцны савецкі актыў. Людзі пачынаюць работаць па-новаму, пачынаюць разумець у чым справа і наша задача—падтрымаць гэты новы актыў, моцна яго падтрымаць, інакш мы ня справімся з сяўбой.

5. «Недаацэнка ролі і адказнасьці комуністаў у справе колгаснага будаўніцтва, у справе збожжазагатовак».

Рад парторганізацый СССР і ў тым ліку парторганізацыі Беларусі не зразумелі, што іменна цяпер, калі колгасьнік моцна стаіць за нас, калі колектывізацыя ў вёсцы моцная, як ніколі, іменна цяпер нязьмерна павялічваецца адказнасьць комуністаў за **правільнае кіраўніцтва** колгасьнікамі і колгасным будаўніцтвам; не зразумелі, што іменна цяпер, калі колгасьнікі бязумоўна падтрымліваюць савецкую ўладу, такую аўторытэтную і моц-

ную, якой «няма і ня было ў сьвеце», і партыю, такую аўторытэтную і моцную, роўнай якой, «няма і нябывала ў сьвеце» — іменна цяпер на першы плян высоўваецца задача зрабіць колгасы бальшавіцкімі, бо нэйтральных колгасаў у СССР ня можа быць, таксама як ня можа быць нэйтральных профсаюзаў, нэйтральных саветаў.

І ў гэтай задачы галоўная адказнасьць падае на комуністаў, на партыю.

«Кажучы аб цяжкасьцях збожжазагатовак, комуністы звычайна ўзвальваюць адказнасьць на сялян, сьцьвярджаючы, што ва ўсім вінаваты сяляне. Але гэта зусім няверна і бязумоўна несправядліва. Сяляне тут ня прычым.

Не ў сялянах трэба шукаць прычыну затрудненьняў у збожжазагатоўках, а ў нас саміх, у нашых уласных радох, бо **мы** стаім ва ўладзе, **мы** распалагаем сродкамі дзяржавы, **мы** заклікаты кіраваць колгасамі і **мы** павінны несьці ўсю паўнату адказнасьці за работу ў вёсцы» (Сталін).

Мы маем усе ўмовы для таго, каб падняць нашу работу на больш

вышэйшую ступень. Гэта паказвае між іншым і вопыт 1932 г. Варта было ЦК УсеКП(б) нас падцягнуць, як мы хутка спраўляемся з пастаўленымі задачамі і ў найкарацейшы тэрмін выконваем нашы задачы. Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што ў нас ёсьць усе ўмовы для таго, каб па-бальшавіцку разгарнуць работу соцыялістычнага будаўніцтва, што ў нас ёсьць усе ўмовы для таго, каб сапраўды ператварыць БССР ва ўзорную соцыялістычную Савецкую рэспубліку.

III. Якія асноўныя задачы партработы ў вёсцы, якія шляхі ліквідацыі гэтых буйнейшых недахопаў?

У адносінах барацьбы з клясавым ворагам і яго ўплывам — рашучае ўзмацненьне органаў і мер пролетарскай дыктатуры для канчатковага і бязьлітаснага падаўленьня апошніх рэштак паміраючых клясаў, іх спроб організаваць адсталыя слаі насельніцтва на барацьбу з саветамі, да канчатковага выкараненьня іх уплываў.

У адносінах асноўных мас колгаснага сялянства — разгортвань-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

не палітыка-выхаваўчай работы, рашучы паварот да пытаньняў сацыялістычнай якасьці колгасаў, заваяваньня большасьці ў колгасах. Неабходна ў што-б там ні было дабіцца, каб кожны колгас стаў бальшавіцкім.

У адносінах партыйнага кіраўніцтва — падняцьце партыйнага палітычнага кіраўніцтва кожнага нізавога зьвяна партыі на бальшавіцкую вышыню, падбор бальшавіцкіх правераных кадраў, ажыцьцяўленьне ў што-б там ні стала конкрэтнага кіраўніцтва, ажыцьцяўленьне непасрэднай опэратыўнай і найбольш гібкай сувязі з кожным сялом, з кожным колгасам, з кожным колгасьнікам бальшавіцкае кіраўніцтва на аснове разгортваньня сапраўднай бальшавіцкай самакрытыкі.

Галоўнейшым вагаром у соцыялістычным перабудаваньні вёскі зьяўляюцца МТС, якія павінны стаць ня толькі організацыйна-тэхнічнымі, але і палітычнымі цэнтрамі колгасаў.

Стварэньне палітаддзелаў пры МТС і ў саўгасах пераводзіць партыйную работу ў вёсцы на новую,

нязьмерна больш высокую сту-
пень.

Палітаддзелы пры МТС пэвінны стаць **баявымі** органамі партыі ў вёсцы па арганізацыйным умацаваньні колгасаў і соцыялістычнай перапрацоўкі селяніна.

**Галоўная задача** політаддзелаў пры МТС і ў саўгасах заключаецца ў першую чаргу ў арганізацыйным умацаваньні колгасаў, у тым, каб зрабіць колгасы і саўгасы ўзорнымі, у тым, каб палепшыць гаспадараньне колгасаў.

Політаддзелы пры МТС — **гэта** іменна тая форма партыйнага кіраўніцтва колгасамі, саўгасамі і МТС, якая як па сваіх задачах, так і па сваёй арганізацыйнай структуры найлепш забясьпечвае баявое і непарыўнае спалучэньне бязьлітасных мер пролетарскай дыктатуры ў барацьбе з клясавым ворагам, з разгорнутай політычнай работай сярод масы колгасьнікаў за соцыялістычнае гаспадараньне, з разгорнутай работай па соцыялістычнай перапрацоўцы колгасьніка.

Гэта падкрэсьліў у сваёй прамове на пленуме т. **Сталін**, гаворачы, што «політаддзелы МТС і саўга-

саў зьяўляюцца адным з тых **рашаючых** (падкрэсьлена намі) сродкаў», з помаччу якіх можна зьнішчыць буйнейшыя недахопы ў рабоце на вёсцы.

**Політаддзелы** павінны ў першую чаргу **забясьпечыць** бязумоўнае і поўнае **выкананьне** колгасамі і колгасьнікамі сваіх **абавязкаў** перад дзяржавай, **цэласьць грамадзкай уласнасьці,** забясьпечыць партыйнае вока і контроль ва ўсіх абласьцях работы МТС, саўгасаў і колгасаў, якія імі абслугоўваюцца: забясьпечыць вырашэньне задач па **павышэньні ўраджайнасьці і доглядзе за жывёлай;** сваячасовую **організацыю** вясеньняй і асеньняй **сяўбы;** забясьпечыць якасьць насеньня, барацьбу з раскраданьнем насеньня, сваячасовую організацыю **ўборкі і абмалоту, барацьбу з раскраданьнямі** абмалочанага **збожжа;** забясьпечыць уважлівы **догляд за інвэнтаром; выгнаньне шкодніцкіх элемэнтаў** і сваячасовае прымяненьне да іх карных адміністрацыйных мер пролетарскай дыктатуры.

Політаддзелы МТС павінны забясьпечыць **падбор** праверaных

**кадраў** для саўгасаў і колгасаў, правільную іх расстаноўку; павінны выхоўваць масы колгасьнікаў на конкрэтных фактах штодзеннай работы і жыцьця колгасу.

Якімі **мэтодамі** організацыйнай і політычнай работы павінны вырашаць політаддзелы задачы **ўмацаваньня** колгасаў і саўгасаў?

**Першая** задача політаддзелаў, якая ўказваецца рашэньнем пленуму ЦК і ЦКК, — **згуртаваць вакол сябе моцны партыйны і комсамольскі актыў** з ячэек МТС, колгасаў і саўгасаў, ня гонячыся за колькасьцю, а зьвяртаючы галоўную ўвагу на адданасьць партыі і ўменьне весьці за сабой колгасьнікаў і работнікаў саўгасу.

Партыйныя організацыі вёскі за апошнія два гады ў колькасных адносінах значна вырасьлі. Аднак, гэта не заўсёды суправаджалася **якасным** іх умацаваньнем. Многія партыйныя і комсамольскія ячэйкі ў вёсцы аказаліся значна засьмечанымі чужымі і нават варожымі для справы комунізму людзьмі. Чыстка партыі вызваліць нашы рады ад усіх ненадзейных, няўстойлівых і прымазаўшыхся элемэн-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

таў. *Абавязак палітаддзелаў,* **вы-** *яўляючы ўсё гнілое і чужое ў партыйных і комсамольскіх арганізацыях,* — адначасова памагчы згуртаваньню і вырошчваньню сапраўднага партыйна - комсамольскага актыву і **падняць работу па ідэйным узбраеньні** комуністаў і комсамольцаў.

**Другая** задача палітаддзелаў, дыктуемая рашэньнем пленуму ЦК і ЦКК, непарыўна зьвязана з першай,—**згуртаваць** беспартыйны **актыў вакол партыйна-комсамольскіх ячэек** з адданых, праверанных у барацьбе за савецкую ўладу колгасьнікаў і рабочых саўгасаў, актыў, які будзе весьці за сабою асноўную масу. А тое, што маса за намі, што колгасы зьяўляюцца ўстойлівымі, — гэта бясспрэчна.

Гэты партыйны і беспартыйны актыў можа расьці і палітычна **загартоўвацца толькі ў барацьбе за бальшавіцкі ўплыў, за нашу большасьць у колгасах і саўгасах.** «Нам трэба ня ўсякае ядынства, нам патрэбна такое ядынства ў колгасе або саўгасе, якое забясьпечвае кіраўніцтва і ўзначаленьне бальшавіцкага ядра, якое падтрымліваец-

ца беспартыйным актывам. А такога ядынства немагчыма дабіцца бяз сур'ёзнай барацьбы за выгнаньне антыграмадзкіх і антыколгасных элемэнтаў з колгасаў і саўгасаў. **Таму барацьба партыйна-комсамольскага бальшавіцкага ядра за стварэньне беспартыйнага актыву ў колгасах і выгнаньне антыграмадзкіх элемэнтаў для заваяваньня большасьці ўнутры колгасаў і саўгасаў зьяўляецца ў даны момант неабходнейшай задачай».** (Рэзол. пленуму ЦК і ЦКК). (Падкрэсьлена.—**Рэд.**).

Пры правільнай расстаноўцы сіл партыі ў вёсцы, пасьля ясных і чоткіх указаньняў пленуму і правадыра партыі т. Сталіна аб далейшых задачах і мэтодах работы ў вёсцы, пры бальшавіцкай самакрытыцы, пры ідэйным узбраеньні комуністаў, пры мобілізацыі сіл партыі для канчатковай ліквідацыі кляса-варожых элемэнтаў, монолітнасьці і стальным ядынстве ленінскіх радоў, пад кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б),—пасьпяховае перамаганьне цяжкасьцяй будаўніцтва, ліквідацыя наяўных недахопаў у рабоце на вёсцы—забясьпечана.

«Няма такіх цытадэляў, якіх бальшавікі не маглі-б узяць» (Сталін).



## 4. УНУТРЫПАРТЫЙНЫЯ ПЫТАНЬНІ

Партыя пасьпяхова перамагала цяжкасьці будаўніцтва на ўсім працягу рэволюцыі, на ўсім працягу першай пяцігодкі. У чым была і ёсьць сіла нашай партыі?

Перш за ўсё, у непарушным ядынстве паміж клясай і авангардам, паміж партыяй і яе кіраўніцтвам; ядынстве, аснаваным на няўхільнай ленінскай політыцы, якую праводзіць партыя і яе правадыр т. Сталін; ядынстве аснаваным на бязьлітаснай барацьбе з клясавым ворагам і ачыстцы радоў партыі ад здраднікаў рабочай клясе, опортуністаў, двурушнікаў.

Сіла партыі была і ёсьць у непарыўным ядынстве бальшавіцкага слова і бальшавіцкай справы.

На кожным этапе соцыялістычнай будоўлі партыя, перастрайваючы свае рады ў адпаведнасьці з новай абстаноўкай і новымі задачамі згуртоўвала вакол сваіх лёзунгаў творчыя сілы і актыўнасьць

глыбінных слаёў пролетарыяту і працоўных, узначальвала гэтую актыўнасьць для пераможнага руху ўперад да соцыялізму.

Пэрыод разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце — пэрыод вялікіх лёзунгаў і вялікіх спраў.

На аснове лёзунгу самакрытыкі, высунутага т. Сталіным, партыя згуртоўвала масы і выклікала патос будаўніцтва новых заводаў, ажыцьцяўляючы шэсьць гістарычных умоў т. Сталіна, ажыцьцяўляючы лёзунг т. Сталіна аб авалоданьні тэхнікай, аб стварэньні сваёй інтэлігенцыі з радоў рабочай клясы.

Партыя згуртоўвала масы і выклікала патос будаўніцтва новых колгасаў, ажыцьцяўляючы палітыку ліквідацыі кулацтва як клясы.

Другая пяцігодка павінна прывесьці да пабудаваньня бясклясавага грамадзтва і канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў.

Лёзунг партыі аб асваеньні новых прадпрыемстваў як галоўнай задачы ў прамысловасьці, аб арганізацыйным умацаваньні і соцыялістычным асваеньні колгасаў, як

ґалоўнай задачы ў сельскай гаспадарцы, — лёзунг, які зьяўляецца пасьлядоўным прадаўжэньнем лініі партыі ў новых умовах пераможна-завершанай першай пяцігодкі, — патрабуе і далейшай перабудовы партыйнай работы (сэнс стварэньня політаддзелаў пры МТС і саўгасах і заключаецца ў перабудове партыйнай работы на вёсцы ў сувязі з новай абстаноўкай і новымі задачамі), патрабуе павышэньня рэволюцыйнай пільнасьці, яшчэ большага ідэйнага ўзбраеньня комуністаў, яшчэ большага ўмацаваньня монолітнасьці партыі, у барацьбе з клясавым ворагам і яго агентурай, з контррэволюцыйным трацкізмам, з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай, «левым» опортунізмам і прымірэнцтвам да іх.

Правы опортунізм адлюстроўвае сабой шалёную злосьць разгромленага, але яшчэ канчаткова не дабітага клясавага ворага, які супраціўляецца тым мацней, чым больш ён адчувае сваё бясьсільле зьніштожыць справу соцыялізму.

Правы опортунізм зьмяніў сваю тактыку таксама, як зьмяніў сваю

тактыку кулак. Таксама як і кулак, правы опортунізм маскіруецца, прыймае самым рознастайныя і замаскаваныя формы — ашуканства партыі і двурушніцтва, прызнаньні лініі партыі на словах, барацьбы з лініяй партыі—на справе.

... Перад тварам нашых выключных посьпехаў, якія вымушаны прызнаць нашы ворагі за рубяжом, антыпартыйныя, антысавецкія групоўкі ня выступаюць адкрыта супроць генэральнай ліні партыі. Яны адкрыта не бяруць пад сумненьне лінію на індустрыялізацыю і колектывізацыю сельскай гаспадаркі. Яны організуюць усякага роду паклёпы, падпольныя гутаркі, мусіруюць ілжывыя чуткі, провокацыі, зьвяртаюцца да ўсялякіх манэўраў: шляхам вечарынак, п'янак, згуртоўваюць вакол сябе антыпартыйныя, антысавецкія групоўкі. Анолёгічныя факты мы мелі тут у Менску, у Мозыры.

У сваіх організацыйных **мэтодах** правыя опортуністы таксама «адлюстроўваюць сударгі дабіваемага ворага і скатваюцца на шлях контррэволюцыйнай барацьбы з партыяй» (К а г а н о в і ч).

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Усе гэтыя рысы правага опортунізму выявіліся як у нядаўна выкрытай партыяй контррэволюцыйнай групоўцы Руціна—Сьляпкова, якая ставіла стаўку на роспуск колгасаў, закрыцьцё трактарных заводаў, капітуляцыю перад міжнародным капіталам,—так і ў новай, антыпартыйнай групоўцы Эйсманта— Талмачова — Сьмірнова, групоўцы, якая пашырала погляды адмовы ад колгасаў і саўгасаў, звароту да кулацкай гаспадаркі, здачы заваяваных пяцігодкай позыцый і т. д.

Партыя з усёй рашучасьцю і бязьлітаснасьцю адкінула гэты антыпартыйны хлам, выключыўшы організатараў групы—Эйсманта і Талмачова з партыі, выключыўшы Сьмірнова з ЦК партыі.

У сваёй рэзолюцыі аб унутрыпартыйных пытаньнях пленум указаў, што Рыкаў і Томскі стаялі ў баку ад барацьбы з антыпартыйнымі элемэнтамі і сваімі паводзінамі давалі магчымасьць разьлічваць на сваю падтрымку антыпартыйным элемэнтам, буржуазным перараджэнцам.

У сваіх выступленьнях на пленуме былыя лідэры правай опозыцыі прызналі поўны правал сваёй політыкі, прызналі, што ў барацьбе супроць партыі і яе кіраўніцтва, супроць т. Сталіна, яны былі рупарам кулака, што яны змагаліся супроць ЦК партыі і т. Сталіна іменна таму, што ЦК на чале з т. Сталіным пасьлядоўна і няўхільна ажыцьцяўляў генэральны плян соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце, баявое няўхільнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты нашай краіны, на кулака; таму, што т. Сталін зьяўляўся натхняльнікам узбраеньня партыі ленінскім разуменьнем задач соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, таму што ён даў партыі і рабочай клясе разгорнутую програму соцыялістычнай індустрыялізацыі, мобілізаваў партыю на ажыцьцяўленьне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыю кулацтва як клясы; таму што т. Сталін зьяўляецца сапраўдным ленінцам, сапраўдным яго вучнем і вялікім саратнікам, сапраўдным правадыром пролетарскай рэволюцыі.

... Мы ўсе бачым у т. **Сталіне**, правадыра, які за агульнымі пытаньнямі кіраўніцтва аграмадным соцыялістычным будаўніцтвам у СССР, пытаньнямі кіраўніцтва рэволюцыйным рухам ва ўсім сьвеце ўмее конкрэтна кіраваць кожным вучасткам нашай работы. Ён умее на кожным вучастку нашай работы папярэдзіць аб небясьпецы, павярнуць нашы організацыі на правільны шлях, умее наносіць руйнуючыя ўдары ворагам генэральнай лініі партыі.

Не выпадкова правыя і «левыя» опортуністы, трацкісты ў барацьбе супроць лініі ЦК накіроўвалі свой удар супроць кіраўніцтва ЦК, супроць т. **Сталіна.**

Партыя патрэбавала ад былых лідэраў опозыцыі доказаў на справе правядзеньня і барацьбы за генэральную лінію партыі ў штодзеннай рабоце на сваім вучастку, сапраўды бальшавіцкай актыўнай барацьбы за генэральную лінію партыі і практычную політыку ЦК супроць усіх контррэволюцыйных груповак і ўсялякіх ухілаў, барацьбы супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі, супроць дву-

рушнікаў і прымірэнцаў. Малейшыя хістаньні ў далейшым каго-небудзь з былых лідэраў правай кулацкай опозыцыі павінны пацягнуць за сабой неадкладнае прыняцьце самых суровых мер партыйных спагнаньняў.

Актывізацыя клясава - варожых сіл адбываецца і ў БССР.

За апошні час мы мелі выступленьне контррэволюцыйных трацкісцкіх груп (Мазыр, Акадэмія навук БССР), якія імкнуліся ажыцьцявіць програму кулацкай, буржуазнай рэстаўрацыі, якія праводзілі тактыку разлажэньня парторганізацыі знутры ў сваёй практычнай дзейнасьці, займаліся саботажам на даручаных ім адказьнейшых вучастках работы.

У Белдзяржснабе выкрыта контррэволюцыйная група на чале з нацдэмократам Талкачом, раскрыта контррэволюцыйная група ў Дзяржземтрэсьце, якая складалася ў асноўным з нацыянал-дэмократычных элементаў.

Ускрыты правоопортуністычныя і буржуазна-нацыяналістычныя выказваньні сярод некаторых членаў ячэйкі рэдакцыі газэты «Зьвязда»



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Ускрыты контррэвалюцыйныя, трацкісцкія элемэнты ў Дзяржпляне і некаторых іншых установах.

Клясавы вораг, кулацкія, буржуазна-нацыяналістычныя элемэнты, рэшткі нацдэмаўшчыны, выступаючы супроць нашага будаўніцтва, прыкрываюць часта сваю энтысавецкую работу фальшыва-нацыянальным флагам. Мы на гэтым вучастку фронта павінны ўзмацніць нашу рэволюцыйную пільнасьць. Мы павінны і наперад весьці самую рашучую і непрымірымую барацьбу супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, гэтай галоўнай небясьпекі ў нацыянальным пытаньні. Я нікольні не сумняваюся, што калі-б рад нашых партыйных організацый глыбей праверылі работу многіх нашых організацый і ўстаноў, то мы выявілі-б там ня мала яшчэ вялікадзяржаўнікаў, якіх неабходна прыгвазьдзіць да ганебнага слупу, але ў той-жа час мы павінны ўзмацніць нашу барацьбу з рэшткамі нацдэмаўшчыны, нацыянал-опортуністычнымі элемэнтамі, якія прыкрываюцца фальшыва-нацыянальным флагам. Толькі яўныя опортуністы, наскрозь пратухшыя гнілыя лібэралы

могуць разьлічваць на тое, каб такія элемэнты, як Талкач (былы нацдэм), сядзеўшы ў Белдзяржснабе, альбо Бялуга—у Белкоопсаюзе, змогуць забясьпечыць правільнае правядзеньне нашай нацыянальнай палітыкі.

Пленум прыняў рашэньне аб чыстцы партыі. У барацьбе супроць клясавага ворага ў партыі—«жулікаў з партбілетам»—неабходна беражліва ахоўваць чыстату партыі, па-бальшавіцку падрыхтавацца і правесьці чыстку партыі, бязьлітасна адкінуўшы элемэнты, якія перарадзіліся і прымазаліся, «арганізаваць справу чысткі партыі такім чынам, каб забясьпечыць у партыі жалезную пролетарскую дысцыпліну і ачышчэньне партыйных радоў ад усіх ненадзейных, няўстойлівых элемэнтаў», бязьлітасна расправіцца з двурушнікамі—правымі і трацкістамі, якія на словах завяраюць аб сваёй солідарнасьці з генэральнай лініяй партыі, а на справе вядуць здрадніцкую контррэволюцыйную работу.

Пленум ЦК прайшоў пад знакам разгорнутай бальшавіцкай самакрытыкі, яшчэ большага ўмаца-

ваньня ленінскага ядынства партыі, пад знакам далейшага пераможнага соцыялістычнага наступленьня пры самаадданай падтрымцы партыі і яе кіраўніцтва ўсёй рабочай клясай, усімі працоўнымі Саюзу.

«Наша партыя, як гаварыў т. Сталін, зьяўляецца непераможнай, калі яна ведае, куды весьці справу і не баіцца цяжкасьцяй. Непераможна яна і таму, што на чале нашай партыі на зары яе зараджэньня стаяў такі найвялікшы геніяльны чалавек, як Ленін, і таму, што цяпер на чале нашай партыі стаіць найвялікшы з саратнікаў Леніна—т. Сталін» (Кагановіч).

---

